ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 32 24 жніўня 1995 г.
(2434) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

## "ГЕНЕРАЛА КАЗЛОЎСКАГА... АБ'ЯВІЦЬ ПА-ЗА ЗАКОНАМ"

### ПРАЎДА І МАНА ПРА ЧАЛАВЕКА, ЯКІ ЛІЧЫЎСЯ ПРАВАДЫРОМ КРАНШТАЦКАГА МЯЦЯЖУ 1921 ГОДА

**З урадавага паведамлення ад 2 сакавіка 1921 года, падпісанага У.І.Леніным і Л.Д.Троцкім:**

**"Новая белагвардзейская змова. Мяцеж былога генерала Казлоўскага і карабля "Петрапаўлаўск".**

**У Краштаце... былы генерал Казлоўскі з трыма афіцэрамі, імёны якіх яшчэ не ўстаноўлены, адкрыта выступілі ў ролі мяцежнікаў. За спіной эсэраў і на гэты раз стаяў царскі генерал".**

Гэта было не так. Кранштат, што ўважліва сачыў за падзеямі ў краіне, які зведаў на сабе бізун "ваеннага камунізму", быў падобны да моцна сціснутай спружыны, якая вось-вось раскруціцца. І яна раскруцілася. Непасрэднай прычынай паслужылі выступленні рабочых у Петраградзе.

У 1921 годзе ў кіраўнікоў розум засціў страх. Страх страціць уладу, што нібыта ўжо ўмацавалася. А ў страху, як вядома, вочы вялікія. Толькі таму Кранштат, які быў незадаволены, але які не выйшаў яшчэ з падпарадкавання цэнтральнай уладзе, аб'явілі паўстаўшым. Цяпер трэба было накручваць далей. Раз паўстанне -- значыць, ёсць арганізатары. Хто? Нехта з "былых". Самая буйная фігура -- Казлоўскі.

З таго часу і пераходзіць з падручніка ў падручнік, з аднаго мастацкага твора ў другі вобраз агіднага чалавечка, пазбаўленага сумлення, які перабягае з аднаго лагера ў другі і тым самым пастаянна здраджвае свайму народу.

Дык хто ж ён такі, гэты чалавек, апляваны вучонымі і пісьменнікамі? Бацька яго, армейскі капітан Мікалай Казлоўскі, паходзіў з занядбанага беспамеснага дваранскага роду Гродзенскай губерні.




18 жніўня 1865 года ў яго нарадзіўся сын, якога назвалі Аляксандрам. Ён быў аддадзены спачатку ва Уладзімірскі кіеўскі кадэцкі корпус, потым паступіў у Міхайлаўскае артылерыйскае вучылішча ў Санкт-Пецярбургу. З аднакай скончыў вучобу, быў накіраваны ў 3-ю Грэнадзёрскую артылерыйскую брыгаду.

З 19 кастрычніка 1897 года паручнік Аляксандр Казлоўскі -- слухач Артылерыйскай акадэміі.

**З загада па Міхайлаўскай артылерыйскай акадэміі N 143.**

**"... паручніка 3-й Грэнадзёрскай брыгады Казлоўскага А.М. прызнаць скончыўшым курс Акадэміі па І разраду. Імя паручніка Казлоўскага, як дастойнейшага па выпуску, унесці на Ганаровую мемарыяльную дошку Акадэміі.**

**Начальнік Акадэміі генерал-лейтэнант Дзям'яненкаў".**

У 1912 годзе Аляксандру Мікалаевічу прысвойваецца званне генерал-маёра і яго прызначаюць камандзірам ІІ-й Сібірскай стралковай артылерыйскай брыгады. Да гэтага часу за аднакі па службе ён ужо быў узнагароджаны ордэнамі Св. Уладзіміра 3-й ступені, Св.Станіслава 2-й і 3-й ступеняў, Св.Ганны 2-й і 3-й ступеняў.

З пачаткам вайны з Германіяй генерал Казлоўскі разам са сваёй брыгадай прыбыў на фронт у раён Маладзечна, дзе неўзабаве атрымаў назначэнне з павышэннем -- камандуючым артылерыяй 1-га корпуса Заходняга фронту.

**НА ЗДЫМКУ: А. КАЗЛОЎСКІ з жонкай і дачкой.**

(Заканчэнне на 4-й стар.).

### ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**Спадзяемся, што цяпер нішто не перашкодзіць вам падпісацца на газету "Голас Радзімы" на IV квартал 1995 года. Хочацца верыць, што і тыя, хто вагаўся і не выпісаў "Голас Радзімы" на III квартал бягучага года, не маючы ўпэўненасці, што газета будзе выходзіць, зробяць гэты крок.**

**Лепш мець гарантаваную падпіску на "Голас Радзімы", чым шукаць яго па кіёсках.**

**Наш індэкс -- 63854.**

**Цана падпіскі на квартал -- 9 600 руб.**

**Нагадваем: падпіска доўжыцца да 31 жніўня.**

ГАНДЛЁВЫ ДОМ "НА НЯМІЗЕ"

## СУСВЕТНЫЯ СТАНДАРТЫ БЕЛАРУСІ НЕ ПАТРЭБНЫ?

*Стаіць не ў Рыме, не ў Рызе*
*Гандлёвы дом на Нямізе,*
*Не трэба ехаць далёка,*
*Каб за мяжой пабываць,*
*Тавары з Рыму і з Рыгі*
*Прывозім мы да Нямігі --*
*Дык, калі ласка, заходзьце,*
*Заўжды рады спаткаць.*

**(Гімн ГД "На Нямізе").**

У самым сэрцы Мінска, у яго самай старой частцы, стаіць сучасны будынак, які арганічна ўпісаўся ў архітэктурны ансамбль і побач размешчанага Свята-Пятра-Паўлаўскага сабора, заснаванага ў XVII стагоддзі, і блокаў жылых, ужо постсавецкага стылю шматпавярховак за ім. Гэта Гандлёвы дом "На Нямізе". Вялікі, але добра спланаваны, светлы і прасторны, "упакаваны" таварамі, нашымі і замежнымі самай высокай якасці, Гандлёвы дом "На Нямізе" прыцягвае пакупнікоў яшчэ і ўзроўнем свайго сервісу. Наогул, гэта ўзор таго, што можна зрабіць з нашым усё яшчэ савецкім недарэчным гандлем. Штодзённа больш як 20 тысяч чалавек прыходзяць сюды за пакупкамі. Тут набыты тавар з густам і прыгожа запакуюць ветлівыя прадаўцы; калі рэч не па размеру, але вы ўсё-такі хочаце яе набыць -- падгоняць. Тут жа да вашых паслуг аптэчны кіёск, абменныя пункты валюты; пры неабходнасці зробяць копію ключоў, фірма "Кодак" праявіць вашу плёнку, прычым, купленую ў магазіне -- бясплатна. Сюды прыходзяць і тыя, хто проста адчувае неабходнасць паблукаць па астраўку цывілізаванага свету. У кутку адпачынку, пад экзатычнымі дрэвамі ля жывога фантанчыка, яны змогуць выпіць кубачак кавы з ласункамі, адчуць асалоду ад ахаладжаных напіткаў французскай фірмы "DANONE", якім, між іншым, аддае перавагу прэзідэнт ЗША Біл Клінтан. Карацей, сёння Гандлёвы дом "На Нямізе" -- гэта маленькая дзяржава ў дзяржаве. І таму не дзіўна, што, як ва ўсялякай дзяржаве, ёсць у яе і свой гімн, напісаны кампазітарам Эдуардам Ханком на словы паэта Уладзіміра Някляева.

Відавочна, што ў сучасных эканамічных умовах пабудаваць такую "дзяржаву" маглі толькі апантаныя ідэяй людзі, неабыякавыя як да рэпутацыі горада, так і будучыні сваёй краіны. Аднак, прабіраючыся "праз церні да зорак", да намечаных мэты -- падарыць мінчанам нябачаны дагэтуль культурны гандлёвы цэнтр, яго кіраўнікі, відавочна, забыліся, што ў краіне, дзе больш за 70 гадоў прапаведавалася ўраўнілаўка і пасрэднасць, ініцыятыва і незалежнасць заўсёды былі каральныя.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ФЕСТЫВАЛЬ У ГРЭЦЫІ



На фальклорны фестываль, які штогод праводзіцца ў грэчаскім горадзе Наусе, сярод артыстаў з 12 краін быў і народны ансамбль песні і танца "Сузор'е" з Брэста. Нашы артысты выступалі больш як у 10 канцэртах у гарадах Наусе, Арыдэя, Вергія. І ўсе нумары праграмы "Сузор'я" праходзілі на "біс". Асаблівай папулярнасцю ў грэкаў карысталася наша "Лявоніха", і гром апладысментаў зрываўся з трыбун, калі калектыў выконваў рускую "Кацюшу".

Па выніках фестывалю "Сузор'е" разам з калектывам з Іспанскай правінцыі прызнана пераможцам сёлетняга года. Ансамбль занесены ў спісы лепшых самадзейных калектываў, што пабывалі на фестывалях фальклору ў Наусе, і адзначаны памятным залатым медалём.

**НА ЗДЫМКУ: "Сузор'е" на адной з вуліц Наусы.**

**ГАНДЛЁВЫ ДОМ "НА НЯМІЗЕ"**

# СУСВЕТНЫЯ СТАНДАРТЫ БЕЛАРУСІ НЕ ПАТРЭБНЫ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Не пазбег гэтай долі і Гандлёвы дом "На Нямізе". Вось ужо больш года (заўважце: з двух гадоў існавання прадпрыемства!) ён знаходзіцца ў цэнтры ўвагі вышэйшага кантрольнага фінансавага органа рэспублікі -- Кантрольнай палаты.

Сацыялістычная схема экспрапрыяцыі экспрапрыятараў проста і добра вывучана: спачатку пішацца данос, далей справа разглядаецца ў адпаведных органах і, нарэшце, "сумніўны аб'ект", калі не знішчаецца, дык адбіраецца і ўганяецца ў рамкі звыклых банальных стандартаў. Пагроза нацыяналізацыі навісла і над "Нямігай". На жаль, эканамічная рэальнасць такая, што ва ўмовах недасканалага заканадаўства і прававой неразбярыхі сёння можна знішчыць праверкай Кантрольнай палаты або ўказам Прэзідэнта любое эфектыўна працуючае прадпрыемства. Выпадак з гэтым гандлёвым прадпрыемствам паказальны, але перш чым пачаць яго гісторыю, напомню, што Гандлёвы дом "На Нямізе" -- гэта толькі частка сумеснага прадпрыемства "Родэн-Мінск", якое таксама ўключае магазіны "Дзіцячае адзенне" і "Чай", рэспектабельны бар-рэстаран "Вячэрні" (раней "Варнштайнер"), кафэ "Ванда" і "Чабор". З першых дзён заснавання ўзначальвае СП Сяргей Гурыновіч. Малады і энергічны (яму 44), былы інструктар гаркома КПБ, які курыраваў гандаль, а цяпер генеральны дырэктар вядомага прадпрыемства, ён ніяк не адпавядае іміджу былога партыйнага і тым больш гандлёвага функцыянера. Народжанае Гурыновічам і яго аднадумцамі "дзецішча" разбівае міф аб тым, што трансфармаванне чалавечай свядомасці ў пераходны перыяд магчыма толькі са зменай пакаленняў і прыходам новых людзей.

— У 1991 годзе стала ясна, што на даўгабуд на Нямізе, спраектаваны яшчэ ў канцы 70-х як "Дзіцячы свет", грошай у дзяржавы няма, -- расказвае генеральны дырэктар Сяргей Гурыновіч. -- Тады па ініцыятыве ўпраўлення гандлем Мінгарвыканкома было прапанавана стварыць СП з мэтай прыцягнення замежных інвестыцый. Назвалі яго "Родэн-Мінск", бо ў заснавальнікі ўваходзіла тады і нідэрландская фірма "Пянафортэкс" з горада Родэн. Мне ж прапанавалі ўзначаліць прадпрыемства. Добра ведаючы праблемы дзяржаўнага гандлю, я адразу паставіў перад сабой мэту стварыць прынцыпова новае, па заходняму ўзору прадпрыемства. Вельмі хутка ўсе заснавальнікі пра СП забыліся: практычна ніхто з іх не зрабіў уступнага ўзносу ва ўстаўны фонд. Больш таго, некаторыя заснавальнікі пазней трасфармаваліся ў іншыя прадпрыемствы і фактычна ніякіх адносін да нас больш не мелі. Усе праблемы даводзілася вырашаць толькі дырэкцыі "Родэн-Мінск". Мы бралі крэдыты ў камерцыйных банках, займаліся гаспадарчай дзейнасцю, самі даставалі патрэбныя нам матэрыялы, не спадзеючыся на будаўнікоў; многія з сённяшніх работнікаў нашага прадпрыемства ўдзельнічалі ў будаўнічых работах. Перад адкрыццём Дома гандлю калектыў працаваў ледзь ці не кругласутачна. Думаю, што пакупнікі могуць сёння ацаніць вынікі нашай працы. Аднак апамяталіся і заснавальнікі: яны зразумелі, што могуць цяпер адхапіць прынадны кавалак ад пірага. Яны ж і пачалі кампанію супраць дырэкцыі. У выніку Мінгарвыканком выступае за перадачу будынка на баланс ЖРЭА Цэнтральнага раёна Мінска, матывуючы прэтэнзіі незаконнай прыватызацыяй. Але, па-першае, калі стваралася прадпрыемства, закона аб прыватызацыі яшчэ не існавала. І другое, -- мы распрацавалі і чатыры разы падавалі дакументы на рэгістрацыю ўжо акцыянернага таварыства ў Міністэрства знешніх эканамічных сувязей, згодна з якімі галоўным уласнікам застаецца горад, г.зн. той жа Мінгарвыканком. Па незразумелых прычынах яны так і не прайшлі рэгістрацыі.

Асноўныя фонды, якія мы напрацавалі за два гады, складаюць істотную суму. Мы закупілі вытворчае абсталяванне, у нас ёсць свой аўтапарк, частка будынка. Юрыдычна ж, на жаль, калектыву (больш за 750 чалавек) нічога не належыць. Усе ад генеральнага да прадаўца -- толькі наёмныя работнікі, не маючыя права голасу ў СП "Родэн-Мінск". Мы звярнуліся ў Вышэйшы гаспадарчы суд з іскам, каб нарэшце вырашыць, хто ёсць хто. У любым выпадку я ўпэўнены, што калі не суд, дык час сам паставіць усе кропкі над "і". У рэшце рэшт, мы згодны нават адмовіцца ад прыналежнай нам уласнасці, але ў гэтым выпадку дзяржава павінна кампенсаваць усе нашы затраты. Гэта не так і мала -- 3 мільярды рублёў. Тым не менш я працую і раблю ўсё, каб прадпрыемства засталося лепшым у рэспубліцы. Гэта не амбіцыі. Па майму глыбокаму перакананню, мінчане, як і ўсе людзі, што жывуць у Беларусі, даўно заслужылі ўзровень абслугоўвання, які адпавядае лепшым сусветным стандартам.

Поспехі Гандлёвага дома "На Нямізе" відавочныя. Яго тавараабарот за 1994 год склаў 47,7 мільярда рублёў (г. зн. вырас у 2,3 раза ўжо ў супастаўляльных цэнах), аб'ём валавога даходу ад тавараабароту склаў 23,8 працэнта (найвышэйшы працэнт сярод аналагічных прадпрыемстваў у Беларусі). "На Нямізе" самы нізкі ўзровень гандлёвай надбаўкі (цэны тут ніжэйшыя, чым на тыя ж тавары ў любым іншым універмагу горада). Ужо адкрыты філіялы ў Маладзечне і Бабруйску. У бліжэйшай будучыні яны адкрыюцца ў Ашмянах, Віцебску, Гродне, Рэчыцы. Вышэйпамянёныя паказчыкі шмат што кажуць прафесіяналу, але ўлады іх проста не заўважаюць.

Юрыдычныя сваркі ніяк не садзейнічаюць развіццю прадпрыемства, ускладняюць працу з партнёрамі. У сучасны момант практычна затарможана будаўніцтва і ўвод у эксплуатацыю другой чаргі Гандлёвага дома, куды, меркавалася, увойдзе супермаркет "Нямігскі". Не ўвасоблены пакуль і праект будаўніцтва шклянога купала на другім паверсе ў пешаходнай зоне, дзе меркавалася размясціць зімовы сад, некалькі кафэ хуткага харчавання, гандлёвыя кропкі і г.д. Адным словам, у дырэкцыі "На Нямізе" была задума стварыць сапраўдны гандлёвы культурны цэнтр з поўным комплексам паслуг. Ці дачакаюцца яго мінчане? Сёння гэта залежыць толькі ад рашэння Вярхоўнага гаспадарчага суда.

Кароткі перыяд эйфарыі прыхільнікаў незалежнасці і дэмакратыі ў Беларусі завяршаецца. Стандарты і прынцыпы, якіх прытрымліваецца калетыў кампаніі, вядомыя і вітаюцца ва ўсім свеце. У Беларусі, на жаль, іх пакуль не прымаюць. Ідзе хваравіты працэс выціскання новага і вяртання да старога. Магчыма, і сапраўды беларусам сусветны ўзровень сервісу не патрэбны. Цікава. Але першы і пачатак другога тома "Кнігі водгукаў" сведчаць аб іншым.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**





**НА ЗДЫМКАХ: знешні выгляд Гандлёвага дома; адзін з інтэр'ераў магазіна.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**ВАЙНА: ШТО НАМ РЫХТАВАЛІ НАЦЫСТЫ**

# ВЕДАЦЬ І ПОМНІЦЬ

У жніўні-верасні 1942 года фашысты праводзілі серыю аперацый пад кодавай назвай "Зумпфібэр" ("Балотная ліхаманка").

Яна ахоплівала шэраг раёнаў Мінскай і Віцебскай абласцей. Обергрупенфюрэр СС Екельн, які кіраваў аперацыяй, у сваім паведамленні аб яе выніках данесіў, што знішчана 10 013 чалавек і 1 217 захоплена для адпраўкі ў Германію.

Такім чынам, разам з эсэсаўцамі, камандамі паліцыі бяспекі і СД не ў меншай меры вінаваты ў жудасных злачынствах, у масавым знішчэнні мірнага насельніцтва ўзброеныя сілы вермахта. На акупіраванай тэрыторыі Беларусі ў перыяд карных экспедыцый нямала крывавых злачынстваў учынілі салдаты і афіцэры 201, 203, 221, 286, 390, 403, 707-й ахоўных і іншых дывізій нямецка-фашысцкіх войск.

Пры правядзенні карных экспедыцый часцямі 286-й ахоўнай дывізіі, па далёка не поўных даных, у 1942 годзе спалена больш за 50 вёсак, у многіх выпадках разам з насельніцтвам. З халодным садызмам дзікіх звяроў немцы-карнікі спалілі жывымі і ўтапілі ў рацэ Свольна 3 639 мірных жыхароў. І хто ж яны? Гэта 2 118 дзяцей да 12-гадовага ўзросту. Гэта 310 старых больш чым 50-гадовага ўзросту.

І гэта яшчэ не ўсё. Карнікі схапілі і пагналі на катаргу ў Германію 2 615 мужчын і жанчын, забралі ў насельніцтва апошнюю жывёлу, увесь хлеб і хатнія пажыткі людзей. Ахвяры нямецкага тэрору падвяргаліся жудасным катаванням і здзекам...

Вырэзванне грудзей, вырэзванне пяціканцовых зорак на спінах людзей -- гэта яшчэ не ўвесь арсенал страшных нямецкіх катаванняў. Многім сваім ахвярам немцы выломвалі рукі і ногі, скручвалі галовы. У некаторых вёсках немцы нават насаджвалі на калы дзяцей -- хлопчыкаў і дзяўчынак.

Жудасныя зверствы ўчынялі садысты 275, 277, 278, 279-га паліцэйскіх батальёнаў, аб'яднаных у групу "Берта" пад камандаваннем палкоўніка паліцыі Кнехта, карнікі групы "Цаўкеніг" на чале са Шрэдэрам і іншыя забойцы. Выключнай жорсткасцю вызначаліся спецыяльныя каманды паліцыі бяспекі і СД, надзеленыя неабмежаванымі паўнамоцтвамі.

Варварскую жорсткасць і зверствы ў адносінах да мірнага насельніцтва праяўлялі ў перыяд карных экспедыцый адказныя супрацоўнікі мінскага СД: Хойзер, Вільке, Шлегель, Люткенхус, Мюлер, Брэдэр, Освальд, Бюргер, фон Гольц, Мух Артур, Ведзекінд, Курт Граф, Карл Глеб і іншыя.

У час карных экспедыцый Вільке, Хойзер, Шлегель і іншыя, як правіла, з'яўляліся кіраўнікамі каманд СД і дзейнічалі крайне злачыннымі і бязлітаснымі метадамі. Так, у карнай аперацыі ў раёне Шацк-Слуцк у студзені 1943 года, якую гітлераўцы цынічна называлі "Эртэфест-І" ("Свята ўраджаю-І"), да падраздзяленняў вермахта і паліцэйскіх часцей спецыяльна быў прыкамандзіраваны супрацоўнік мінскага СД Вільке з зондэркамандай.

Нямала загубленых чалавечых жыццяў на сумленні былога намесніка начальніка аператыўнай групы ў Мінску штурмбанфюрэра СС Рэйнхальда Брэдэра. Так, 28 студзеня 1943 года за яго подпісам выдалі загад, у якім гаварылася: "У раёне на захад ад аўтастрады Мінск--Слуцк на працягу 45 кіламетраў знаходзяцца партызанскія падраздзяленні... Усе паліцэйскія задачы, а таксама задачы бяспекі бяруць на сябе ў данай аперацыі тры каманды СД". І далей Брэдэр тлумачыў, што пад гэтымі задачамі варта разумець разведку і "абясшкоджванне памочнікаў партызан і спачуваючых ім", гэта значыць знішчэнне мірнага насельніцтва. Карнікі і гэтую аперацыю цынічна называлі "Эртэфест-ІІ" ("Свята ўраджаю-ІІ").

Асабліва жорстка дзейнічаў батальён войск СС, якім камандаваў зацяты галаварэз маёр Оскар Дырлевангер. У адным з яго загадаў у час правядзення аперацыі "Хорнунг" гаварылася: "... Батальён яшчэ раз прачэсвае баявы ўчастак на паўночным напрамку 15--17 лютага 1943 года аж да лініі Старобін--Паварчыцы. Прытым павінна быць знішчана ўсё, што можа служыць абаронай". Эсэсаўскія каты толькі ў Мінскай і Магілёўскай абласцях спалілі разам з людзьмі больш за 150 населеных пунктаў. На іх руках кроў звыш 120 тысяч чалавек.

У маі--чэрвені 1943 года войскі вермахта, эсэсаўскія і паліцэйскія фарміраванні сумесна з камандамі паліцыі бяспекі і СД правялі буйную аперацыю супраць партызан і мірнага насельніцтва на тэрыторыі Віцебскай, Мінскай і былой Вілейскай абласцей. У нямецкіх дакументах гэтае злачынства зашыфравана пад назвай "Котбус".

У ходзе аперацыі, якую ўзначальваў брыгадэнфюрэр СС генерал-маёр паліцыі фон Готберг, толькі адной групай карнікаў на чале з гаўптштурмфюрэрам СС Вільке расстраляна 3 616 чалавек, захоплена для адпраўкі ў Германію мужчын -- 2 812, жанчын -- 450, а таксама забрана 3 196 галоў буйной рагатай жывёлы і цялят, 2 182 авечкі, 760 коней, больш за 660 тон збожжа і г. д. Яна ж спаліла 113 вёсак.

Страшныя злачынствы тварылі гітлераўцы ў час карных аперацый "Зімняе чараўніцтва", "Зімні лес", "Русалка", "Гюнтэр", "Герман", "Фрыц", "Генрых", "Вясенні карагод" і іншых.

Фашысты імкнуліся любой цаной забяспечыць сабе свабоду манеўра ў сваім тыле і калі не знішчыць, то хаця б блакіраваць асноўныя фарміраванні партызан. У красавіку 1944 года гітлераўцы зноў сабралі вялікія сілы армейскіх франтавых і ахоўных войск, эсэсаўскіх і паліцэйскіх падраздзяленняў, іншых спецыяльных часцей і пачалі буйную карную аперацыю пад кодавай назвай спачатку "Лівень", а потым "Свята вясны". У гэтай акцыі ўдзельнічала да 60 тысяч варожых войск. У ходзе яе было знішчана 7 011 чалавек і 11 тысяч было пагнана на катаргу ў Германію.

Аднак якую б тактыку вораг ні прымяняў, ён не дабіваўся пастаўленай мэты. Яму не ўдалося разграміць партызанскія атрады і брыгады ў раёнах іх канцэнтравання. Гітлераўцы не змаглі зламаць стойкасць і мужнасць партызан і насельніцтва, падарваць іх веру ў перамогу.

У гады Вялікай Айчыннай вайны фашысцкія захопнікі ўчынілі на часова акупіраванай імі тэрыторыі жудасныя злачынствы. Яны пакінулі пасля сябе страшны крывавы след, бедствы і небывалыя разбурэнні. Гітлераўцы спалілі і разбурылі ў Беларусі 209 гарадоў і раённых цэнтраў, 9 200 вёсак, 10 338 прамысловых прадпрыемстваў. Страта людзей -- у гады вайны загінуў кожны чацвёрты жыхар Беларусі -- непапраўная! Фашысцкія захопнікі расстралялі, замучылі, павесілі на тэрыторыі рэспублікі звыш 2 мільёнаў 200 тысяч грамадзян, каля 380 тысяч чалавек вывезлі на катаргу ў Германію.

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 25—26—30.**

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

*МОЎНАЯ СІТУАЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ Ў КАНЦЫ XVIII—XIX СТАГОДДЗЯХ*

# ПАМІЖ ПОЛЬШЧАЙ І РАСІЯЙ

**ПАСЛЯ II МІЖНАРОДНАГА КАНГРЭСА БЕЛАРУСІСТАЎ**

*Сёлета ў канцы мая ў Мінску адбыўся II Міжнародны кангрэс беларусістаў. На яго сабралася больш за 250 дэлегатаў з семнаццаці краін свету.*

*У праграме былі такія глабальныя тэмы, як "Міжнацыянальныя адносіны", "Міжканфесійнае ўзаемадзеянне", "Моўныя і літаратурныя кантакты", "Узаемадзеянне ў галіне мастацтва і народнай культуры" і іншыя. На пасяджэннях "міжнародных круглых сталоў" былі абмеркаваны гісторыка-культурныя ўзаемадачыненні паміж беларусамі і іх суседзямі -- латышамі, літоўцамі, палякамі, украінцамі, рускімі. У апошні дзень кангрэса гаворка ішла пра лёс беларускіх матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, страчаных у час другой сусветнай вайны і пасля яе.*

*Госці прыехалі на кангрэс са Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады, Швейцарыі, Германіі, Англіі, з Японіі і Індыі, з прыбалтыйскіх дзяржаў і Расіі, з Польшчы і Балгарыі.*

*Год за годам гэтыя людзі даследуюць і пішуць пра Беларусь, яе гісторыю і культуру, падтрымліваюць нас у памкненнях расказаць праўду аб роднай зямлі. "Як падняць пашану Англіі да Беларусі -- краіны, якая не шануе сама сябе?" Такое пытанне задаў віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў англічанін Джым Дынглі ў сваім кароткім выступленні. І сапраўды: людзі ў розных кутках свету вывучаюць мову, ад якой, па сутнасці, адмаўляецца наш народ, як адмаўляецца ён сёння і ад самастойнага шляху, і ад жадання што-небудзь рабіць самому.*

*... Даклады, прачытаныя на кангрэсе, будуць выдадзены Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў. У "Голасе Радзімы" мы надрукуем са скарачэннямі толькі некаторыя з іх.*

У канцы XVIII--XIX стагоддзях на Беларусі склалася унікальная моўная сітуацыя. Справа была не толькі ў полілінгвізме і залежнасці ўжывання той ці іншай мовы ад сацыяльнага і канфесійнага статуса асобы. У гэты час мова становіцца адным з пунктаў, вакол якога ідзе палітычная барацьба, і адначасова адным са сродкаў такой барацьбы. Галоўны канфлікт моўнай сітуацыі ў гэты час на Беларусі -- супрацьстаянне рускай і польскай моў. Барацьба паміж імі самым непасрэдным чынам уплывала на стан мовы карэннай нацыянальнасці -- беларусаў, а таксама на статус моў малых этнічных супольнасцей рэгіёна -- яўрэяў, літоўцаў, латышоў.

На час першага падзелу Рэчы Паспалітай на Беларусі найбольш распаўсюджанымі былі тры мовы -- польская, беларуская, яўрэйская. Першая, мова пануючага саслоўя, мова справаводства і каталіцкага касцёла, была адначасова мовай міжнацыянальных стасункаў. Беларуская мова, якой карысталіся ніжэйшыя саслоўі, адначасова не была чужой і шляхце, якая ўжывала яе ў якасці хатняй мовы. Беларускай мовай, як мовай часткі набажэнства (казанні), карысталася уніяцтва. Ідзіш і іўрыт ужываліся амаль выключна яўрэямі і былі мовай мяшчанскай у адпаведнасці з сацыяльным статусам значнай большасці яўрэйскага насельніцтва Беларусі.

Першы падзел Рэчы Паспалітай унёс карэктывы ў гэтую дастаткова складаную сітуацыю. Ужо ў першых "наказах" Кацярыны II мове заваёўнікаў надаваўся дзяржаўны статус: "Дела вы имеете производить на российском языке...", -- адзначала імператрыца ў Наказе генерал-губернатарам Пскоўскай і Магілёўскай губерняў 28 жніўня 1772 года. Праз год імператрыца ўдакладніла, што частка справаводства, якая датычыць маёмасных пытанняў і якая раней разглядалася земскімі і падкормскімі судамі, можа весціся на польскай мове. Кацярына II пакуль што ішла насустрач польскамоўнай шляхце, пакідаючы ў сферы ўжывання польскай мовы самую важную для мясцовага дваранства частку справаводства. У гэты час ствараецца падмурак для рускамоўнай школы на Беларусі. Першымі, хто паспрабаваў весці выкладанне мовы заваёўнікаў, былі езуіты. Робячы "рэверанс" у бок улады, яны пачалі выкладаць рускую мову ў езуіцкім калегіуме ў Полацку.

У 1776 годзе быў пакладзены пачатак друкаванню на рускай мове на Беларусі: "дабы юношеству подать знание русского языка", каталіцкі біскуп Богуш-Сестранцэвіч у сваёй Магілёўскай друкарні ўводзіць друкаванне "гражданкой".

Але найбольш значную ролю ў пераўтварэнні сістэмы адукацыі ў сродак русіфікацыі павінны былі адыграць народныя вучылішчы, адкрытыя паводле рэформы 1785 года. Галоўныя народныя вучылішчы ствараюцца ў Магілёве і Полацку, малыя народныя вучылішчы -- у Мсціславе, Веліжы, Невелі, Воршы, Копысі, Чэрыкаве і Чавусах. Гэтыя вучылішчы мелі агульнасаслоўны характар -- тут маглі вучыцца дзеці шляхты, мяшчан, чыноўнікаў, нават дзяржаўных сялян. Але шляхта арыентавалася галоўным чынам на каталіцкія навучальныя ўстановы і не вельмі жадала пакідаць сваіх дзяцей у адным асяроддзі з падатнымі саслоўямі. Такім чынам рускамоўныя народныя вучылішчы станавіліся сродкам русіфікацыі пераважна беларускага мяшчанства, праваслаўнай і уніяцкай шляхты, чыноўнікаў.

Пасля далучэння да імперыі цэнтральнай і заходняй Беларусі праблема мовы тут стала значна вастрэй, чым на ўсходзе. Заходняя і цэнтральная часткі Беларусі былі больш спаланізаваныя, шмат хто з шляхціцаў (а менавіта з імі лічылася царская адміністрацыя) дрэнна разумелі па-руску. Руская мова, аднак, не была цалкам незнаёмай насельніцтву цэнтральнай і заходняй Беларусі. Вельмі красамоўныя аргументы прыводзіць у доказ гэтаму мінскі губернатар Няплюеў у 1793 годзе. Да яго звярнуліся судовыя чыноўнікі, просячы даць для судоў перакладчыкаў з рускай мовы на польскую. Губернатар, адмаўляючы, зазначыў, што ў губерні многія ведаюць расійскую мову, аб чым сведчаць шматлікія паданні, напісаныя па-руску. Акрамя таго, піша ён, непадалёк руская мяжа (г.зн. Віцебшчына і Магілёўшчына), за якой у многіх памешчыкаў ёсць уладанні, а там рускую мову трэба ведаць. Але, бадай, найцікавейшым аргументам быў апошні: "во истечение прошедшего столетия в польской области все акты были писаны российским диалектом, а не природным польским, и сии памятники совершенно изобличают всех тех, коим надлежит вникать в познание прав...". Такім чынам, старабеларуская мова колішняга справаводства стварала падмурак для выкарыстання рускай мовы ў якасці афіцыйнай. Як большасць расійскіх чыноўнікаў, Няплюеў не бачыў, ды пэўна не хацеў бачыць самабытнасці беларускай мовы, разглядаючы яе як дыялект рускай.

Усю першую чвэрць XIX стагоддзя рускай мове на Беларусі адводзілася даволі сціплае месца: дзяржаўныя ўстановы, часткова школа. У навучальных установах, падпарадкаваных Віленскай навучальнай акрузе, за выключэннем народных вучылішчаў, вывучэнне рускай мовы было неабавязковым і яна выкладалася толькі там, дзе набіралася дастатковая колькасць жадаючых. Па звестках, якія прыводзіць Данель Бавуа, на пачатку стагоддзя руская мова наогул не выкладалася ў 25 школах Беларусі, а там, дзе выкладалася, яе вывучалі адзінкі. Кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі праводзіла свядомую палітыку распаўсюджання польскай мовы.

Друк, тэатр, прыватная перапіска, аб'явы, шыльды, афішы -- усё ў гэты час на Беларусі заставалася польскамоўным. Інтэнсіўная паланізацыя Беларусі, якая з'яўлялася ў той час формай і следствам польскага нацыянальна-вызваленчага руху, не пакідала вялікага месца для развіцця беларускай літаратурнай мовы.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

# "ГЕНЕРАЛА КАЗЛОЎСКАГА... АБ'ЯВІЦЬ ПА-ЗА ЗАКОНАМ"

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Люты 1917-га Казлоўскі сустрэў з радасцю. На змену Часоваму ўраду прыйшла новая ўлада. Яе лозунгі генерал успрыняў як найбольш адпавядаючыя ў дадзены момант інтарэсам краіны і народа. І пайшоў да яе на службу.

Спачатку ён быў назначаны ўпаўнаважаным Галоўнага начальніка забеспячэння па Петраградскаму раёну. У канцы 1918 года Аляксандр Мікалаевіч -- інспектар артылерыі адной з армій Паўднёвага фронту. У 1919 годзе ён ужо начальнік артылерыі Карэльскага фронту, а крыху пазней -- інспектар артылерыі 7-й арміі Тухачэўскага.

14 мая 1920 года А.Казлоўскі загадам начальніка Упраўлення артылерыі марской крэпасці Кранштат прызначаны камендантам форта Краснафлоцкі. 16 верасня гэтага ж года пераведзены інжынерам-тэхнолагам пры начальніку артылерыі.

У гэты час сям'я яго жыла ў Петраградзе. Жонка Наталля Канстанцінаўна, сын Мікалай, 1899 года нараджэння, слухач Артылерыйскай акадэміі, камісар Політэхнічнага інстытута; сыны Канстанцін, 1901 года нараджэння, і Дзмітрый, 1902 года нараджэння, курсанты вучылішча Камсастава флота, удзельнікі баёў з Юдзенічам; сын Павел, 1904 года нараджэння, выпускнік сярэдняй школы, дачка Лізавета, 1908 года нараджэння, таксама вучаніца.

Апошні раз да драматычных падзей Казлоўскі бачыўся з жонкай і дзецьмі ў канцы студзеня -- пачатку лютага 1921 года.

**З урадавага паведамлення ад 2 сакавіка 1921 года:**

**"Былога генерала Казлоўскага і яго падзвіжнікаў аб'явіць па-за законам".**

Да гэтага часу няма ніводнага сведчання таго, што Аляксандр Мікалаевіч мае нейкае дачыненне да арганізацыі незадаволенасці сярод матросаў і чырвонаармейцаў. Адным з галоўных кіраўнікоў так званага мяцяжу яго зрабіла ўрадавае паведамленне, што з'явілася на падставе чутак, прынесеных з Кранштата М.Калініным, які ні ў чым не разабраўся.

І вось вакол Кранштата разгараліся страсці. Усе члены сям'і Казлоўскага 3 сакавіка былі ўзяты заложнікамі. Іх трымалі 10 дзён у турме ЧК на Гарохавай, 2. Потым Лізу, як непаўналетнюю, выпусцілі, а астатніх перавялі ў дом папярэдняга зняволення на Шпалернай. Тут у красавіку 1921 года ім аб'явілі прыгавор: братам па аднаму году прымусовых работ, маці -- пяць гадоў.

У чэрвені ўсіх перавялі ў "Крыжы".

... 17 сакавіка кранштатцам стала ясна, што баявая група (3 800 чалавек), якая непасрэдна стрымлівала націск часцей Чырвонай Арміі і якая несла вялікія страты, станавілася ўсё меншай, доўга не пратрымаецца. Рэўком прыняў рашэнне: з надыходам змроку адвесці тых, хто не хоча заставацца ў крэпасці, на фінскі бераг.

Пад вечар над залівам нечакана апусціўся туман. У 19 гадзін пачаўся адыход. Першую групу павёў А.Казлоўскі. Яму трэба было падрыхтаваць месца для прыёму астатніх.

Пасля прыбыцця ў Тэрыюкі Аляксандр Мікалаевіч перадаў камандзіру Карэльскага ваеннага сектара зварот з просьбай аб інтэрніраванні прыбыўшых кранштатцаў і тых, што ішлі ззаду.

**Са звароту А.Казлоўскага да каменданта Карэльскага ваеннага сектара:**

**"... пасля... атрымання 3 сакавіка 1921 года ультыматума ад урада... выдаць галоўных зачыншчыкаў ураду я і іншыя афіцэры гарнізона, не згаворваючыся, вырашылі прыняць удзел у агульным руху насельніцтва Кранштата і дапамагчы Часоваму Рэвалюцыйнаму Камітэту ў справе адстойвання правоў народа сваімі ведамі і вопытам".**

Аляксандр Мікалаевіч працягваў выконваць абавязкі начальніка артылерыі крэпасці. У час гэтых падзей да апошняй магчымасці абыходзіўся без абвастрэння, без вялікай крыві.

Тут трэба асабліва падкрэсліць, што ў раšаючыя суткі, 16--17 сакавіка, гарматы Кранштата не прынеслі Чырвонай Арміі таго ўрону, які маглі б прынесці. Пры аналізе арганізацыі артылерыйскага агню "мяцежнікаў" супраць наступаючых часцей Тухачэўскага сам па сабе напрошваецца вывад, што Казлоўскі вёў яго не на паражэнне. Задачай стральбы з гармат было аказаць псіхалагічнае, адпалохваючае ўздзеянне на чырвонаармейцаў.

Можна сабе ўявіць, што засталося б ад шматтысячнай масы байцоў на лёдзе, калі б па іх прыцэльна ўдарыла артылерыя караблёў і фортаў. Плюс агонь кулямётаў ля сцен Кранштата.

Кранштатцы і разам з імі Казлоўскі спадзяваліся на розум улады. Яны спадзяваліся пад самы канец, калі чырвонаармейцы былі ўжо на вуліцах крэпасці, пры дапамозе братання спыніць непатрэбную жорсткую бойню. Матросы кідалі зброю, раскрываючы абдымкі. Але братанне хутка спынілася, чырвонае камандаванне аддало загад страляць і па сваіх, і па чужых, хто кінуў вінтоўкі і кулямёты...

Аляксандр Мікалаевіч быў узрушаны тым, што давялося пакінуць Радзіму. Што будзеш рабіць на чужой зямлі? Уступіць у якую-небудзь палітычную арганізацыю і весці работу супраць сваёй краіны? Але ён на гэта не быў здольны. Вярнуцца дамоў? Але ён па-за законам. Прасіць літасці? Але ён не вінаваты.

Пачаў перабівацца выпадковымі заробкамі. Пасля працяглых ваганняў напісаў пісьмо Манергейму (усё-такі былы рускі генерал) з просьбай дапамагчы з работай. І атрымаў кароткі, катэгарычны адказ: "Для чырвонага генерала ў мяне няма работы".

Нарэшце Казлоўскаму пашанцавала: ён уладкаваўся настаўнікам матэматыкі, фізікі і прыродазнаўства ў рускай сярэдняй школе ў Перкіярве. Праз некаторы час школу закрылі. Давялося ўладкавацца рабочым па брукаванню дарог.

Потым былы генерал быў майстрам на адным з механічных заводаў у Выбаргу. Тут яго дачка Ліза скончыла вучобу, і яе ўзялі гувернанткай у адну прыстойную сям'ю ў Хельсінкі. Неўзабаве туды перабраўся і бацька.

Жонка і сыны Казлоўскага, вярнуўшыся з Халмагор у Чарапавец, паступова, па чарзе перабраліся ў Піцер. Працавалі спачатку, хто кім.

Нібыта ўсё добра складвалася ў Мікалая. Але пастаянныя прыцясненні, напамінкі аб тым, што ён сын ворага савецкай улады, выводзілі яго з душэўнай раўнавагі, і ў 1927 годзе ён застрэліўся, напісаўшы ў перадсмяротнай запісцы: "Не магу цярпець несправядлівасці..."

1 снежня 1934 года быў забіты С.Кіраў. У Ленінградзе пачалася чыстка. У сакавіку 1935 года выслалі ў казахстанскі стэп і Казлоўскіх. Потым ім дазволілі вярнуцца. Праўда, трагічна склаўся лёс Канстанціна. Абвінаваціўшы ў спробе ўцёкаў са ссылкі, яго арыштавалі і адправілі ў лагер. Там ён і загінуў.

... Аляксандр Мікалаевіч Казлоўскі апошнія свае гады жыў, як, зрэшты, і раней, ціха, непрыкметна. Ударам для яго з'явілася савецка-фінская вайна ў 1939--1940 гадах. Можа быць, гэта і было непасрэднай прычынай яго смерці 7 сакавіка 1940 года.

Пахаваны ён на могілках у цэнтры Хельсінкі. На помніку з паліраванага ружовага граніту высечаны рускія, але чужымі літарамі, словы: "Генерал Аляксандр Мікалаевіч Казлоўскі".

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"




Антось прыпыняў граньне. Браў шклянку. Выпіваў адным духам гарэлку і, абапёршыся локцямі на гармонік, пачынаў прыкусваць. Ён нагадваў мне пацука, які абгрызае хлебную скарынку.

Вечарэла. За вокнамі штораз рабілася цямней. Хлопцы пазавешвалі фіранкі. Гінта запаліла керасінавую лямпу, якая на драцяной дузе вісела пад стольлю.

Працягвалі выпіваць.

Нечакана Кітайца пачало ванітаваць. Спачатку на стол, а пасьля на падлогу.

-- Нарабіў сечкі для сабакі! -- прагаварыў Лорд, уладкоўваючы Кітайца на вузкай, абцягнутай чорнай цыратай, канапе, што стаяла пад вакном.

-- Антось, грай пахавальны марш! -- крыкнуў Шчур.

Гарманіст пачаў выконваць марш Шапэна. Шчур зноў наліў шклянкі і пракрычаў:

-- За здароўе нябожчыка, хлопцы! Няхай ён жыве!

-- Мудра! -- адказаў Лорд, беручы шклянку ў рукі.

Я ніколі ня бачыў, каб пілі гарэлку ў такой колькасьці. Асабліва шмат спажывалі Мамант і Болек Камета. Таксама не марнавалі часу Фэлік Маруда з Бульдогам. Найменей піў Юзік, ну, і я.

У пэўны момант я пачуў крык адразу зь некалькіх горлаў:

-- Ура!

-- Няхай жыве!

-- Давай яго сюды!

Я азірнуўся і ўбачыў Салаўя. Гэта быў малады хлопец. Усьміхаючыся і крыху збянтэжаны такой гучнай сустрэчай, ён падышоў да стала. Па чарзе пацісьнуў нам рукі. Болек Камета пачаў яго прасіць:

-- Салавей! Душачка! Засьпявай, браток!

Сталася дзіўная рэч. Раптоўна гэтыя галасьлівыя, п'яныя людзі сьцішыліся, і ў пакоі залегла маўчаньне. З суседняга пакоя адчыніла дзьверы ўстрывожаная Гінта, але, пераканаўшыся, што ўсё ў парадку, зноў іх прымкнула.

Хлопец з хвіліну стаяў нерухома пасярэдзіне пакоя, а затым зацягнуў песьню перамытнікаў ціхім, крыху дрыжачым голасам, які паступова набіраў моц і пачуцьцё:

Пайшлі хлопцы на работу,
Дзяўчаты смуткуюць:
Днём і ноччу ўсё мяркуюць,
Ці назад прыбудуць.

Салавей падняў угару вочы. Сум і стрыманая скарга гучалі ў яго голасе. Я адчуў, як у мяне па плячах і па чэрапе пабеглі мурашы. У пакоі я нічога ня бачыў, акрамя дзівосных вачэй Салаўя, і кожнай клеткай сваёй душы адчуваў пранікнёны матыў песьні.

Калі Салавей скончыў сьпяваць, усе доўга маўчалі. Паглядзеўшы на Маманта, я ўбачыў, што па яго няроўных, шэрых, нібы вычасаных з каменя шчоках цяклі сьлёзы. Пачуўся голас Шчура:

-- Гэта, пся крэў!

-- Салавей, дарагі! -- выцягнуўшы да яго рукі, казаў Болек Камета. -- Сьпявай, душка! Яшчэ сьпявай! Злітуйся, Божа! Сьпявай!

-- Дайце яму перадыхнуць! -- вымавіў Лорд. -- Тонік! -- крыкнуў ён Антону. -- Грай наперамену "Дунайскія хвалі"!

Антось зайграў вальс, а Лорд, усадзіўшы за стол Салаўя, паіў яго гарэлкай. Я прыгледзеўся да перамытніка. У яго былі дзіцячыя вочы. Лёгкая ўсьмешка блукала па ягоных вуснах. Ён ствараў уражаньне не звычайнага перамытніка, а пераапранутага каралевіча. Падумалася: можа, недзе ёсьць каралевічы з тоўстымі шчокамі, з тупымі позіркамі вачэй і брыдкімі вуснамі.

Крыху пазьней Салавей зацягнуў іншую, больш вясёлую пагранічную песьню.

-- Хлопцы, кажу і сьцьвярджаю, што калі я не вып'ю падвойную, дык маё сэрца разарвецца! -- прагаварыў Камета пасьля таго, як Салавей скончыў песьню.

-- Мудра! -- адгукнуўся Лорд, наліваючы амаль поўныя шклянкі.

У нейкі момант я заўважыў, як Мамант выняў з кішэні гімнасцёркі 20-даляровы банкнот і, сапучы, усунуў яго Салаўю. Той паглядзеў зьдзіўлена на грошы і адкінуў іх на стол.

-- Чаго ты!.. Навошта?.. Я не хачу... Бо ня буду сьпяваць!

-- Забяры грошы! -- адрывіста прагаварыў Юзік Трафіда Маманту. -- Гэта свой хлопец... сам фартуе... За грошы ён не сьпявае!

З цяжкасьцю падняўшыся зь месца, Мамант узяў са стала банкнот і аддаў яго гарманісту. Антось з абыякавым выглядам сунуў грошы ў кішэню і нават не падзякаваў. Для яго гэта ня мела ніякага значэньня. Іграў бы і без аплаты. Галоўнае, абы навокал быў сьмех, воклічы, каб плюхала ў шклянках гарэлка, каб усе былі вясёлыя.

Юзік меўся пайсці да гандляра і запытаўся ў мяне:

-- Патрапіш сам дахаты?

-- Чаму ж не?.. патраплю...

-- Тады добра... Ты тут нічога не павінен... Я за ўсё заплацію.

Разьвітаўшыся зь сябрамі, Трафіда выйшаў з "салона".

Забава не спынялася. Я быў ужо зусім п'яны. Мне зрабілася вельмі горача і весела. Я піў, еў, сьмяяўся, слухаў песьні Салаўя і гармоніка. Ня памятаю, калі выбраўся з салона Гінты і як апынуўся на вуліцы.

Памалу сунуўся нейкім цёмным завулкам. Крок за крокам чэпаў па гразкім балоце. Нечакана да мяне даляцеў зьдзіўлены крык, і ў некалькіх метрах перад сабой я ўбачыў кулку людзей, што біліся пры сьвятле ад вакна нейкага дома. Тры мужчыны білі чацьвёртага, які, павалены на зямлю, бараніўся ад іх з апошніх сіл. Не раздумваючы, я рвануўся наперад. Бакавым ударам, з усяго размаху цела, зьбіў аднаго, другому так засадзіў кулаком у твар, што той, пакаціўшыся назад, сеў у балота. Трэці кінуўся на мяне; ён таксама быў п'яны. Пачаў мяне кусаць. Я біў яго кулакамі па галаве. Той адпусьціў. Гатовы да новай бойкі, хоць і быў напаўпрытомным, я ўсё ж ускочыў на ногі. Раптам мяне званітавала. Пасьля адчуў, што нехта вядзе мяне пад руку. Гэта быў той мужчына, якому я прыйшоў на дапамогу. Ён нешта пытаўся, але я не разумеў яго.

Потым ужо памятаю, як выціралі мне мокрым ручніком твар, як нахіляліся нада мной нейкія незнаёмыя аблічча. Потым алкаголь адабраў рэшткі сьвядомасьці.

Раніцой я прачнуўся ў незнаёмым памяшканьні. Быў зьдзіўлены тым, што тут апынуўся. Запытаўся галосна:

-- Ці ёсьць хто ў хаце?

З кухні ў дзьвярах паказалася сьмешная круглая галава амаль без валасоў.

-- Пан учора быў такі п'яны... Пан нічога не разумеў! -- гаварыў, набліжаючыся да мяне, незнаёмы мне жыд.

-- Але як я тут апынуўся?

-- Я прывёў пана сюды... Пан, напэўна, прыезджы, бо я пана ня ведаю. Учора ўначы галганы хацелі мяне забіць, а пан мяне абараніў.

-- Я жыву на Слабадзе, у Трафіды.

-- Дык пан Юзікаў сябра?

-- Так.

-- Гэта прыстойны чалавек! Гэта залаты чалавек!.. Ай!.. Мяне завуць Ёська, а гэта мой дом.

Мне хацелася сьмяяцца, калі я глядзеў на рукі і міміку жыда.

Пасьля таго як я апрануўся, Ёська ўпрасіў мяне застацца зь ім пасьнедаць. Вымушаны быў згадзіцца. Ёська паставіў на стол бутэльку пэйсахоўкі, а з буфета прынёс фаршыраванага шчупака. Неўзабаве прыйшла з кухні і прысела побач з намі ягоная жонка, маладая і вельмі прыгожая жыдовачка, з малым дзіцем на руках. Я пачаў зь імі гаворку. Ёськава жонка таксама дзякавала мне за дапамогу яе мужу.

-- За што вы пабіліся? -- запытаўся я ў Ёські.

-- Мы гулялі ў карты. Я іх абыграў... На фарт гуляў... не абшукваў, -- тлумачыў мне жыд. -- А яны вырашылі адабраць ад мяне грошы. Калі б яны былі цьвярозымі, дык гэтага не зрабілі б... А так маглі мяне забіць!

Ёська паказваў мне гузакі на галаве, сінякі на руках і карку. Калі я выходзіў з хаты, Ёська падаўся за мной у сенцы.

-- Магчыма, пану што-небудзь будзе патрэбна?.. Дык хай пан прыйдзе... Я ўсё зраблю!

-- А чым пан займаецца? -- запытаўся я.

Усьміхнуўшыся, ён паклаў мне далонь на плячук і прагаварыў:

-- Няхай пан запытае пра гэта ў Юзіка: чым займаецца Ёська Гусяр?.. Ён пану раскажа... Шчасьлівай дарогі!..

Ад Трафіды я даведаўся, што гэта прафесійны злодзей.

-- Калісь быў славутым злодзеем, -- казаў Юзік, -- але, ажаніўшыся па каханьні, пацішэў. Найчасьцей гуляе ў карты. Махляр.

## 4

З Сашкам Вэблiным -- каралём граніцы і перамытнікам -- упершыню спаткаўся пры незвычайных абставінах. Сустрэліся ў ягоным каралеўстве -- на граніцы.

Чацьвёрты раз я ішоў праз граніцу з групай Трафіды. Непадалёку ад Альшанкі перабраліся праз граніцу. Ноч была цёмная. Паўднёвую частку неба загрувасьцілі хмары. Усходні вецер сёк па вачах, і гэта ўскладняла дарогу.

Я крочыў усьлед за Юзікам. Перад выхадам зь мяліны, на пагранічча, дзе перахоўваліся ношкі, мы выпілі па паўпляшкі гарэлкі. Зрабілася цёпла і весела. Я прызвычаіўся да нашай работы і палюбіў яе. Мяне вабілі далёкія дарогі. Захапляла таямнічасьць нашых паходаў. Мне падабалася адчуваньне лёгкай узбуджанасьці, якую выклікае небясьпека. Палюбіліся адпачынкі па лясах і днёўкі на мялінах. Я палюбіў сваіх сябраў, іх гучныя, простыя забавы.

Некалькі дзён таму купіў сабе новы гарнітур. Цяпер меў "на ўласную руку" кішэнны ліхтарык і гадзіньнік. А на дарогу ў сваю кішэню клаў адну альбо дзве пляшкі сьпірытусу. Быў ужо прафесійным перамытнікам. Фартаваў таксама, як астатнія хлопцы.

Прастуючы за Юзікам, думаў пра розныя рэчы. Без намаганьняў сачыў за ім. Я таксама навучыўся насіць цяжкія ношкі. Адначасова сачыў за мясцовасьцю, прыслухоўваючыся і назіраючы па баках -- перад і тыл былі забясьпечанымі.

У некалькіх кроках ад граніцы ўвайшлі ў нейкі зарасьнік. Наперадзе булькатала вада. Трафіда пасоўваўся вельмі павольна, часта спыняўся. Ніколі дагэтуль ён не паводзіў сябе так асьцярожна, як зараз. У адным месцы затрымаўся, і мы вельмі доўга стаялі без руху. Я пачаў мерзнуць... Зноў пакрочылі далей. Булькат вады ўсё ўзмацняўся. Раптам Юзік пачаў адыходзіць назад. Наблізіўся да мяне. Схапіўшы за руку, прымусіў прысесьці ў хмызьняку... Перад сабой я выразна пачуў булькатаньне вады -- і ў той жа момант начную цішыню разарваў карабінавы стрэл і перапалоханы голас, амаль крык:

-- Сто-ой!..

У тое ж імгненьне прагучала некалькі стрэлаў з рэвальвера. Пасьля загрымелі з карабінаў. Ззаду даляцеў тупат ног людзей, якія ўцякалі. Дуднела зямля. Трашчэлі кусты. Несьліся бясконцыя крыкі:

-- Стой!.. Стой!.. Стой!..

Навокал усё віравала. Што адбываецца, у цемры цяжка было зразумець. Трафіда падняўся і, цягнучы мяне за руку, пачаў таропка адыходзіць убок. Пасьля ўперад. Я кіраваўся за ім. Адчуў, што ідзём па вадзе, якая была мне ніжэй калена. Стараўся не згубіць з вачэй сябра, што крочыў наперадзе.

Мы дабраліся да гразкага берага рачулкі, парослага чаротам. Вылезьлі з вады. У гэты ж момант адбылося нешта незвычайнае. Тут жа спераду ляснуў стрэл, і я адчуў, як хтосьці зваліўся на мяне. Удар быў настолькі неспадзяваны і моцны, што я паляцеў на зямлю і скаціўся зь берага ў ваду. Мяне прыдушыла цяжкая ношка. Хтосьці бег рэчышчам, распырскваючы ваду. Вакол грымелі стрэлы і разносіліся ўсхваляваныя галасы. Заслонены абрывістым берагам, я сядзеў у гразкім глеі.

Праз некалькі хвілін навокал мяне запанавала цішыня: стрэлы і крыкі аддаліліся ўлева. Тады я паціху вылез з вады на бераг і пасунуўся ў процілеглым напрамку, далей ад граніцы.

Увайшоў у лес. Ступаць было цяжка. Кожную хвіліну маю дарогу перагароджвалі дрэвы, кусты і залежы гальля. Ня ведаючы мясцовасьці, баяўся трапіць у рукі зялёнак.

У нейкім месцы, прысеўшы на паваленую хвою, доўга адпачываў. Пасьля ўсьляпую вырушыў наперад, імкнучыся трымацца аднаго накірунку. Такім чынам меркаваў выбрацца зь лесу.

Па доўгім пераходзе прыпыніўся на ўскрайку лесу ў гушчары кустоў. Мне запомнілася, што калі ішлі за граніцу, дык вецер дзьмуў у твар. Гэта значыць -- дзьмуў з усходу. Зразумеў, што, крочачы па ветру, я перайду назад граніцу. Крыху паразважаўшы, прыкінуў, што вецер мог зьмяніцца, і тады памылюся. Мяне ахапіла роспач. Адчуваў сябе згубленым у акіяне цямрэчы, у якім ня дам рады той небясьпецы, што хавалася на кожным кроку. Ворагі адусюль цікуюць на маю загубу. Калі б са мной быў Юзік, дык лёгка вывеў бы адгэтуль. Але дзе ён цяпер? Магчыма, дарэмна шукае мяне?

У пэўнае імгненьне прыйшло ў галаву тое, што казаў Трафіда пра зоркі, калі мы ўпершыню вярталіся з-за граніцы. Я пакрочыў назад, стараючыся як мага далей адысьці ад лесу.

Апынуўшыся ў чыстым полі, пачаў разглядаць неба. Яго большую палову зацягнулі хмары, аднак на другой палове ўбачыў сузор'е (як пасьля даведаўся ад Петруся Філосафа) Вялікага Воза, або Вялікай Мядзьведзіцы. На цёмным фоне неба мігцела сем вялікіх зорак, і я, стаіўшы ўздых, доўга ўзіраўся на іх з радасьцю, якая распірала мае грудзі. Прыгадаліся Юзікавы словы: "Калі за намі пагоняцца і разаб'юць групу, дык трымайся так, каб гэтыя зоркі былі заўсёды ў цябе з правага боку. Куды ні пойдзеш, заўсёды выйдзеш на граніцу!"

Я стаў правым бокам да зорак і адчуў, што вецер дзьме ў патыліцу. Так: напрамак -- на захад -- дакладны!

Рушыў наперад. Каб не рабіць галасу, крочыў павольна, бо ня ведаў, дзе знаходжуся, і каб без патрэбы не стамляцца.

Мінаў палі, лугі, узгоркі... Перайшоў нейкі ручэй, але не ведаў, дзе знаходжуся. Можа, яшчэ ў Саветах, а можа, ужо ў Польшчы? Вырашыў ісьці як мага далей. Лічыў за лепшае трапіць у лапы польскіх стражнікаў, там за перамытніцтва (асабліва па першым разе) пакараньне было лягчэйшае, чым у Саветах, дзе гэтая справа каралася вельмі сурова.

Бязгучна, упоцемках, памалу, крок за крокам пасоўваўся ўперад. Калі спыняўся, доўга прыслухоўваўся, стараючыся пры гэтым прабіць вачыма змрок.

Апынуўшыся каля падножжа нейкага кургана, узышоў на ўзгорак. Прыгадалася апавяданьне Юзіка пра капітана і здань. "Дык гэта ж Капітанская Магіла", -- падумаў я.

Зразумеў, што знаходжуся ў Польшчы. Зараз мне будзе лёгка адшукаць шлях да мястэчка.

Прысеў, абапёршыся ношкай аб схіл пагорка, і доўга глядзеў на паўночны захад... Там, дзе казачнымі фарбамі пералівалася шырока раскінутая па небе цудоўная Вялікая Мядзьведзіца. Я яшчэ ня ведаў гэтай назвы, але моцна палюбіў яе. Проста ня мог адарваць вачэй ад тых зорак.

Калі сядзеў нерухома, заглядзеўшыся на зоркі, да мяне даляцеў зьнізу нейкі шоргат. Падняўшыся, падцягнуў уверх лямкі ношкі і падрыхтаваўся ўцякаць. Шоргат не спыняўся. Я ціха апусьціўся ўніз і лёг у лагчынку каля кургана. Праз нейкі час заўважыў постаць, якая памалу паўзла да насыпу. Гэта быў чалавек.

"Напэўна, не зялёнка, а перамытнік, -- падумаў я. -- У зялёнак шынялі колеру хакі, якія ўначы сьвятлейшыя за твар... Пры тым няма сэнсу красьціся ўдалечыні ад граніцы... Магчыма, гэта хто-небудзь знаёмы? Можа, я ведаю?"

Паўзун сеў. Я ўбачыў яго чорны, пахілены абрыс. Крыху пазьней заўважыў шэры прастакутнік ношкі.

Пачуўся ціхі стогн, і неспадзявана прагучаў сьцішаны праклён. "А можа, гэта Юзік?" Не вагаючыся болей, паклікаў:

-- Юзік, гэта ты?

Цёмная постаць сутаргава схамянулася. З хвіліну панавала маўчаньне, а пасьля прагучаў ціхі голас:

-- Хто там?.. Хадзі сюды!.. О, халера!..

Я падышоў да сядзеўшага ў траве чалавека. Сьхіліўся над ім. Незнаёмы запытаўся:

-- Ты хто?

-- Я?.. Уладак... Сябра Юзіка Трафіды.

-- Адкуль ідзеш?.. Ад чырвоных?..

-- Не... ішлі мы з таварам у дарогу... Вёў Трафіда... У Альшанцы зялёнкі пагналі нам ката...

Пачуў зьдзіўленьне:

-- Ага!.. Гэта вы былі!..

-- Пайшлі! -- сказаў я перамытніку.

-- Не магу, халера! Зьвіхнуў нагу.

Працяг.
Пачатак у № 29—31.

# ПАМІЖ ПОЛЬШЧАЙ І РАСІЯЙ

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

Усе "нішы" ў гэты час былі запоўнены. Беларусам застаўся фальклор, травестыйны жанр у літаратуры. Паланізацыя не толькі закрывала шлях для станаўлення літаратурнай беларускай мовы, але нават звужала сферу яе ўжывання там, дзе яна заўсёды захоўвалася, -- сярод сялянства з прычыны актыўных дзеянняў прапольскага базіліянскага ордэна беларуская мова паступова пачынае выціскацца з уніяцкага набажэнства, якое тады было прызначана, галоўным чынам, для сялянства.

Занядбанне на Беларусі дзяржаўнай мовы не магло не выклікаць заклапочанасці расійскіх чыноўнікаў. Перыядычна на працягу дваццаці пяці год гэтае пытанне ўсплывае ў кантэксце агульнай праблемы палякаў і польскасці на беларускіх землях.

Змены ў моўнай сітуацыі пачынаюцца ў апошнія гады царавання Аляксандра І. Гэта найбольш адчувальна адбілася на сістэме адукацыі. У час рэформы Віленскага універсітэта і Віленскай навучальнай акругі, якую праводзіў Навасільцаў у 1823--1824 гадах, руская мова становіцца абавязковай для справаводства ў навучальных установах акругі. У гэты ж час у гімназіях уводзіцца выкладанне ўсеагульнай гісторыі на рускай мове. Ва ўсходняй частцы Беларусі пазіцыі дзяржаўнай мовы павінны былі ўзмацніцца дзякуючы перадачы Віцебскай, Магілёўскай, а потым Мінскай губерняў у склад Пецярбургскай навучальнай акругі.

Статус рускай мовы ў імперыі асабліва пачаў умацоўвацца пры Мікалаі І. Гэта датычыла не толькі ўскраін імперыі, але і французскамоўнага пецярбургскага двара. Умацаванне пазіцый рускай мовы становіцца з гэтага часу адной з важных задач царскай адміністрацыі на Беларусі. У Пецярбургу цяпер ужо больш зацікаўлена ставяцца да прапаноў мясцовых чыноўнікаў у гэтым накірунку. Так было, напрыклад, з праектам віцебскага генерал-губернатара Хаванскага ў 1827 годзе. Ён прапанаваў пераўладкаваць вучылішчы пры каталіцкіх кляштарах, указваючы як на адзін з недахопаў на слабае выкладанне тут рускай мовы.

У гэты час робіцца вельмі значная акцыя супраць ужывання беларускай мовы, якая пакуль што засталася не заўважанай даследчыкамі. Згодна з царскім загадам ад 9 кастрычніка 1827 года набажэнствы ва уніяцкай царкве павінны былі адбывацца толькі на царкоўнаславянскай мове. Такім чынам, замест былой паланізацыі уніяцкай царквы пачынаецца яе русіфікацыя.

Змены ў моўнай сітуацыі на Беларусі становяцца асабліва адчувальнымі пасля паўстання 1830--1831 гадоў. У першае дзесяцігоддзе пасля паўстання ідзе гвалтоўнае ўвядзенне рускай мовы ва ўсе сферы жыцця. Адначасова звужаецца сфера выкарыстання польскай мовы. Прыгадаем толькі некаторыя найбольш значныя захады ў гэтым накірунку.

10 лютага 1831 года было забаронена ўжываць польскую мову ў афіцыйным справаводстве. Сачылі не толькі за мовай пратаколаў і іншых канцылярскіх папер, але нават за пячаткамі і подпісамі. Польскую мову забаронена было ўжываць не толькі ў дзяржаўных установах, але нават на пасадах шляхецкага самакіравання.

Асабліва інтэнсіўна руская мова ўкаранялася ў школу. На яе было пераведзена выкладанне ўсіх прадметаў. Настаўнікі рускай мовы і літаратуры, якія ў час паўстання часта станавіліся памагатымі ўлад, цяпер атрымалі пасады старшых настаўнікаў з павышаным акладам. Згодна з загадам ад 14 лістапада 1833 года чын 14 класа пры выпуску з гімназіі атрымлівалі толькі тыя, хто, акрамя добрых поспехаў у асноўных навуках, паказаў добрае веданне рускай мовы і літаратуры. Выкладанне рускай мовы ўводзіцца ў Медыка-хірургічнай акадэміі, паколькі дагэтуль яе студэнты не мелі аб рускай мове ніякага ўяўлення, па словах рэктара Мяноўскага. Настаўнікі, якія не хацелі або не маглі выкладаць па-руску, былі адхілены ад выкладання. Іх месцы занялі выхаванцы Галоўнага педагагічнага інстытута, дзе ў паскораным тэмпе рыхтаваліся настаўніцкія кадры для Беларусі.

Руская мова паступова адваёўвала пазіцыі і ў іншых галінах культуры. "Выданне "Губернских ведомостей", распачатае ў другой палове 30-х гадоў у губернскіх цэнтрах, паклала пачатак мясцоваму рускамоўнаму перыядычнаму друку. Адначасова пачынаюць уладкоўвацца грамадскія бібліятэкі, адной з задач якіх была прапаганда рускай кнігі. На дзвюх мовах -- па-руску і па-польску -- павінны былі друкавацца аб'явы і афішы.

Эфектыўнасць мерапрыемстваў, арганізаваных самаўладдзем для змены моўнай сітуацыі на Беларусі, была даволі вялікай. "Десять лет постоянной системы действий подвинули уже русскую народность в сих губерниях на полвека", -- пісаў на пачатку 40-х гадоў віленскі генерал-губернатар Ф.Я. Міркавіч.

У гэты час дзяржава імкнецца шляхам адміністрацыйных уздзеянняў пашырыць сферу ўжывання рускай мовы ў рэгіёне. Ужо з сярэдзіны 30-х гадоў назіраецца паступовы паварот у дзяржаўнай палітыцы. Побач з "бізуном" цяпер ужываецца і "пернік". Змена курсу прыйшла да лагічнага завяршэння з прызначэннем на пасаду віленскага генерал-губернатара Ф. Міркавіча, чалавека разумнага, тонкага, які меў неблагі вопыт дзеяння ў варожым асяроддзі і да таго ж быў мясцовым ураджэнцам. Ф. Міркавіч распрацаваў праграму павольнай, "лагоднай" русіфікацыі. Згодна з ёй руская мова павінна была ўкараняцца на Беларусі не толькі дзякуючы загадам улад, але і з прычыны высокага ўзроўню прапагандуемай тут рускай культуры. Аб гэтым ён, у прыватнасці, пісаў міністру ўнутраных спраў, абгрунтоўваючы неабходнасць адкрыцця рускага тэатра ў Вільні. Другі шлях змены моўнай сітуацыі на Беларусі на карысць рускай мовы, які прапанаваў Міркавіч, -- перабудова нацыянальнай структуры насельніцтва за кошт перасялення рускіх землеўладальнікаў.

Найбуйнейшым мерапрыемствам, праведзеным Міркавічам для пашырэння сферы ўплыву рускай мовы, была тэатральная рэформа 1844--1847 гадоў. Дзякуючы ёй змянілася моўная сітуацыя ў тэатральным мастацтве Беларусі. Стварэнне руска-польскіх дырэкцыйных тэатраў давала магчымасць ураду выкарыстаць гэтую найбольш масавую на той час і, бадай, найбольш даступную галіну мастацтва для азнаямлення мясцовых гледачоў "с русским языком, нравами и вообще народным бытом русских".

Такім чынам, моўная сітуацыя, якая склалася на Беларусі ў 40--50-я гады XIX стагоддзя, значна адрознівалася ад таго, што мы назіралі ў першыя дзесяцігоддзі пасля раздзелаў. У канцы XVIII стагоддзя дамінуючае месца ў культуры і палітычным жыцці займала польская мова. Цяпер утвараецца своеасаблівы "парытэт" дзвюх моў — рускай і польскай, з якіх першая мела за сабой моцнае апірышча ў выглядзе расійскага самаўладдзя і рэакцыйных імперскіх плыняў расійскага грамадства; другая — падтрымку мясцовага прапольскі пастаўленага і -- праз мяжу -- уласна польскага дваранства і каталіцкага святарства, а таксама польскай рэвалюцыйнай эміграцыі. У першым лагеры часам аказваліся і прагрэсіўныя дзеячы рускай культуры, якія, аднак, не бачылі самабытнасці беларускай мовы і лічылі русіфікацыю вяртаннем "исконно русской народности" (як, напрыклад, В. Бялінскі, які хадайнічаў аб месцы выкладчыка рускай мовы і літаратуры на Беларусі ў 1833 годзе). 40--50-я гады вырашалі, які з гэтых лагераў пераможа ў барацьбе за мову. Апісваючы завірушэнні вакол увядзення рускай мовы і драматургіі на віленскай сцэне ў 50-я гады, акцёр Эміль Дзерынг вельмі трапна акрэсліў сутнасць праблемы наогул: "Тут ужо ішла справа не аб мастацтве, а аб грамадстве, аб народнасці".

Хісткая раўнавага, якая склалася ў 40--50-я гады ў барацьбе рускай і польскай моўных плыняў, дала магчымасць, разам з іншымі станоўчымі ўмовамі, акрыяць першым парасткам новай беларускай літаратурнай мовы. Яшчэ адна, чарговая хваля беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння, якая ўзнялася ў 30--40-я гады XIX стагоддзя, мела акрамя этнасацыяльных, глабальных прычын і прычыны суб'ектыўныя, сярод якіх не апошняе месца займалі спыненая паланізацыя і не даведзеная да канца русіфікацыя Беларусі пасля лістападаўскага паўстання.

У 1837--1842 гадах у друку пачынаюць з'яўляцца першыя творы на беларускай мове, напісаныя лацінкай: фальклорна-літаратурныя зборнікі Чачота, "Сялянка" Дуніна-Марцінкевіча, стварающца беларускія вершы Сыракомлі, Баршчэўскага, Адэлі з Устроні, таксама напісаныя лацінкай. Адначасова робяцца спробы ўжывання "гражданки" для перадачы беларускага тэксту. Адна з першых -- публікацыя "Энеіды навыварат" у 1845 годзе ў пецярбургскім часопісе "Маяк", дарэчы, пераведзеная з лацінкі.

Беларуская мова пачынае гучаць на сцэне. "Сялянка" Дуніна-Марцінкевіча, дазволеная для публікацыі ў 1846 годзе, нягледзячы на забарону мясцовага губернатара (гэта было абумоўлена, хутчэй за ўсё, не тым, што ў ёй гучала беларуская мова, а сацыяльнымі матывамі), з поспехам ішла ў Мінску і ваколіцах на прыватных сцэнах.

Беларуская мова пачынае, няхай пакуль нелегальна, гучаць у школе. Дарэчы, да гэтага, як ні дзіўна, прычынілася русіфікацыя, праведзеная ў польскамоўнай школе. Асабліва моцнай была гэта з'ява на Віцебшчыне. У 1854 годзе выконваючы абавязкі віцебскага губернатара звярнуўся ў Камітэт міністраў са скаргай на тое, што ва ўсіх навучальных установах губерні, акрамя Полацкага кадэцкага корпуса, у тым ліку і ў гімназіях, руская мова дрэнна выкладалася, у сувязі з гэтым "поступающие на службу молодые люди из белорусских уроженцев по окончании курса наук... почти все говорят и пишут на местном наречии", а не на рускай мове.

У адказ на рапарт віцебскага губернатара была забаронена сенатарская праверка гэтай справы. Сенатар Ахлестышаў, наведаўшы іспыты па рускай славеснасці, гісторыі і закону Божаму, пісаў, што "ответы учеников были более или менее удовлетворительны кроме самого выговора, который неизбежно представляет собою оттенок местного белорусского наречия". Галоўную прычыну абеларушчвання рускай мовы ў школе Ахлестышаў бачыў у беларускамоўным асяроддзі, у якім вучні знаходзяцца па-за школай. У вучылішчы і гімназіі "стекаются дети из всех сословий, которые при этом находятся в заведениях только в продолжение классных занятий, а прочее время остаются у родителей под влиянием того же неправильного выговора", -- пісаў ён. Прапанова Ахлестышаваператварыць усе навучальныя ўстановы ў закрытыя карпусы накшталт кадэцкіх не была прынята. Сенат загадаў пакінуць "все как есть". Як бачым, наяўнасць "белорусского наречия" ў школе ў 50-я гады не вельмі хвалявала вышэйшыя ўлады. Больш таго, кіраўніцтва аднаўленай Віленскай навучальнай акругі, і асабліва яе папячыцель Шырынскі-Шыхматаў, нават ладзіла планы вельмі абмежаванага афіцыйнага дазволу беларускай мовы ў школе. Гэта, перш за ўсё, датычыла школы для сялян.

Існаванне беларускай мовы, як рэаліі моўнай сітуацыі на Беларусі, нельга было ўжо не заўважаць нават самаму заўзятаму русіфікатару. Напярэдадні паўстання 1863 года яна магла быць выкарыстана як адзін са сродкаў выціскання польскай мовы з розных сфер ужытку. Нездарма менавіта з гэтага пункту гледжання яе разглядае Шырынскі-Шыхматаў. Але такая магчымасць не была праведзена ў жыццё. Меры, прынятыя царскімі ўладамі ў канцы 50-х гадоў, якія прывялі да забароны друкавання па-беларуску лацінкай, перапынілі натуральны ход фарміравання літаратурнай беларускай мовы і звузілі сферу яе ўжывання. Неабходна заўважыць, што беларуская мова ніколі не была забаронена царскім урадам. Не было дазволу толькі на друкаванне беларускіх тэкстаў лацінкай. У 1867 годзе наогул было забаронена друкаванне лацінскімі літарамі на тэрыторыі Беларусі і Літвы, нават па-літоўску і па-польску, што ўзмацніла дзеянне цыркуляра 50-х гадоў. Адначасова пачынаецца друкаванне па-беларуску кірыліцай, пераважна фальклорных зборнікаў. У 60-я гады выходзяць зборнікі прымавак, прыказак і загадак Насовіча, у пачатку 70-х -- "Беларускія песні" Шэйна, потым фальклорна-этнаграфічныя зборнікі Раманава і іншыя выданні. Такім чынам кірылічная, а лепей сказаць "гражданковая" беларуская мова стала амаль выключна мовай фальклору, што зноў вяртала яе да становішча "наречия". Такое становішча павінна было задаволіць русіфікатараў і "западно-руссов".

Пасля паўстання 1863 года адбываецца рэзкае гвалтоўнае выцясненне польскай мовы амаль з усіх сфер ужывання. 9 верасня 1963 года Мураўёў пацвердзіў забарону ўжывання польскай мовы ў справаводстве і афіцыйнай перапісцы. Акрамя таго забаронена было ўжываць пячаткі і штэмпелі з польскімі надпісамі. Цыркулярам віленскага генерал-губернатара Патапава ад 22 сакавіка 1868 года польскую мову было забаронена ўжываць у публічных месцах, у тым ліку "в присутственных местах, у начальствующих лиц, вообще по делам службы, в церквах, театрах, клубах и других собраниях, а также на улицах при стечении народа..." У дадатак у ліпені гэтага ж года забарона была распаўсюджана на гасцініцы, рэстараны, піцейныя дамы, друкарні, кавярні і наогул усе месцы, "в которые публика имеет право входить, как в места публичные и общественные, а также и частных случаях, за исключением разговора в домашнем и семейном быту". За парушэнне загаду накладваўся штраф. Аднак нават і на апошняе месца -- сям'ю і касцёл, дзе яшчэ гучала польская мова, пачалося наступленне.

Такім чынам, у другой палове 60-х гадоў моўная сітуацыя цалкам змяняецца і застаецца ў такім выглядзе да пачатку XX стагоддзя. Дамінуючае месца на Беларусі цяпер займае руская мова як мова афіцыйнага справаводства, друку, тэатральнага мастацтва, школы, мова шыльдаў, публічных выступленняў і г.д. Усе астатнія мовы знаходзіліся на паўлегальным становішчы. Беларуская заставалася мовай ніжэйшых саслоўяў, і, дзякуючы перапыненню працэсу ўтварэння літаратурнай мовы на лацінцы, павінна была назапашваць сілы для пераходу на кірыліцу. Польская мова, якая па-ранейшаму гучала ў сем'ях шляхты і падлітвалася друкаваным словам з-за заходняй мяжы, не магла тут развіцца ў прафесійныя формы з-за ўрадавых забаронаў. Але дзякуючы касцёлу, тайным школам, яна вытрывала як адна з асноўных моў. У лепшых варунках знаходзіліся яўрэйскія мовы -- ідзіш і іўрыт, паколькі яны былі дапушчаны ў школы, часткова ў друк і ў набажэнства. Аднак і тут былі абмежаванні -- напрыклад, непажаданым быў яўрэйскі тэатр. За сто год пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі руская мова з мовы чужой і незразумелай стала мовай штодзённага ўжывання. Да гэтага прычыніўся натуральны працэс пранікнення мовы суседняга народа на сумежныя землі, але галоўную ролю ў гэтым адыграла палітыка царскіх улад, якія навязалі мову заваёўнікаў народам, якія пражывалі на тэрыторыі Беларусі.

**С. СЯЛЬВЕРСТАВА-КУЛЬ.**

## ВЫДАДЗЕНА Ў ПРАВІНЦЫІ

Анатоль Іверс -- адзін з старэйшых беларускіх паэтаў. Манера яго пісьма вызначаецца традыцыйным разуменнем паэзіі, яе ролі ў святочным і будзённым жыцці народа. У сілу самых розных абставінаў друкуецца Анатоль Іверс даволі рэдка. Нялёгкае жыццё агораў паэт. Многія выпрабаванні прыйшліся на лёс творцы, чулага да праяў рэчаіснасці чалавека. Адлюстраваннем жыццядзейнасці, уласнага месца ў далёкім і блізкім часе і з'яўляецца новая кніга вершаў Анатоля Іверса "Прыдарожныя сосны", выдадзеная ў Слоніме (там жыве паэт).

Вызначальным падаецца ўжо той верш, што адкрывае зборнік, які даў яму назву.

# ПЕСНЯ РОДНАМУ КРАЮ

Бярозы, абапал бярозы
Радамі стаяць па баках.
Іх ставіў калісьці наш розум,
Унук каб ішоў, не блукаў.

Ішоў я па іншай пуціне,
Дзе соснаў зялёны убор
Таксама трымцеў
павуціннем,
Прасіўся да сёстраў у бор.

*("Прыдарожныя сосны").*

Паэт робіць някідкія як быццам агледзіны, дапамагае чытачу зірнуць на некалькі дзесяцігоддзяў назад. Падае ў пэўнай ступені, без усялякай трывіяльнай дэмагогіі і дыдактыкі ўрок маральнасці.

Святасць, пачуццё дабрыні, любасць у дачыненні да родных і блізкіх, ушанаванне землякоў і ўсяе роднай старонкі -- лейтматыў астатніх твораў кнігі. Анатоль Іверс апісвае свой і знаёмых жыццёвы побыт. Усё ў ім вядомае, але даволі часта забытае, няздзейсненае, абыдзенае нашай увагай. Чытаючы "Прыдарожныя сосны", неўпрыкмет задумваешся, як прыгожа жылі нашыя папярэднікі. Жылі ціха, мірна, з годнасцю. Хаця выпрабаванняў на век Анатоля Іверса, яго равеснікаў хапіла. Пра гэта -- у вершах "Паперка", "Даносчыкі", "Не быць жабракамі", "Калдычэва--Курапаты", "Чаму стралялі ў нас паны?"... Апошні са згаданых твораў прысвячаецца памяці ахвяр Косаўскага расстрэлу 3 лютага 1927 года.

**Чаму стралялі ў нас паны!**
**Што нам няволя іх абрыдла,**
**Што не хацелі ў турмах жыць,**
**Што не хацелі жыць,**
**як быдла.**
**За тое, што хацелі быць**
**Свабодным і**
**шчаслівым людам,**
**Што зразумелі: не рабы,**
**Гатовы даць**
**адпор прыблудам.**

Духоўны стрыжань кнігі вершаў Анатоля Іверса -- гэта, і ці не ў першую чаргу, стварэнне паэтычнага гімна Слоніму і яго ваколіцам. "Гісторык мо адслоніць Старонкі пра жыццё, Як панараму Слонім Шырока распасцёр", -- задаецца ўпэўненым спадзяваннем паэт у вершы "Касцёл святога Андрэя". Напрыканцы верша пададзена празаічна-публіцыстычнае тлумачэнне: "Гэты помнік архітэктуры (касцёл Святога Андрэя. -- **А.К.**) пабудаваны ў Слоніме ў 1775 годзе. У вайну не пацярпеў. Пасля вайны са згоды раённага начальства ў касцёле быў склад солі. Адноўлены на сродкі вернікаў, дзейнічае з 1993 года". Вершаваным радком, эмацыянальным, пранесеным праз душу і сэрца словам Анатоль Іверс вядзе свайго роду змаганне. Змаганне за духоўнасць, маральнасць і светласць чытачоў, землякоў.

Гартаючы старонкі "Прыдарожных соснаў", як быццам вандруем па Слоніму і яго ваколіцах. Анатоль Іверс адкрывае помнікі мінуўшчыны, уводзіць у прыгожы свет слонімскай прыроды ("Упершыню на Свіцязі", "Белая чарамшына", "Бярозы на шляху", "Цвіце чабор"). Паэт, пішучы пра лясы і пералескі, рэкі і лугавіны, стварае своеасаблівую энцыклапедыю прыроды Слонімшчыны, чароўнага кутка Беларусі. Аўтар праяўляе сваю дасведчанасць у перадачы краявідаў, дакладна ілюструе вершам лясныя паляны, згадвае народныя назвы кветак, падкрэслівае дэталі, якія староннямў чалавеку наўрад ці пад сілу адкрыць.

**Ах, чабор! Цвіце чабор,**
**І расце трава-зуброўка,**
**Расступіўся сівы бор**
**Перад божаю кароўкай.**
**І казельчыкі растуць,**
**І зязюльчыны панчошкі...**
**Мо прайду яшчэ вярсту,**
**Заблуджу хаця на трошкі.**

*("Цвіце чабор").*

І ўсюды: у вершаваным роспаведзе пра прыроду, у творах пра матэрыяльную культуру слонімскай старонкі -- Анатоль Іверс укладвае душу і сэрца ("Я яшчэ не абышоў родныя мясціны. Успрымаю ўсёй душой Сонца ў небе сінім").

Многія радкі з кнігі "Прыдарожныя сосны" прысвечаны яго Вялікасці Слову, лёсам беларускіх пісьменнікаў ("Наша слова", "Максім Багдановіч", "Я да Коласа прыйшоў", "На сустрэчу"). Анатоль Іверс не проста вымалёўвае гістарычны, пакутлівы шлях роднага слова, а імкнецца праз перадачу ўласнага судакранання з лёсам мовы і яе носьбітаў, стваральнікаў прыгожага пісьменства перасказаць свой боль, абвастрыць чытацкія перажыванні.

**Жаўрук між**
**воблачных праталін**
**На сваёй мове нас заве,**
**А на зямлі маю стапталі**
**Прышэльцы жудасных завей.**

**Яны скалечылі і душы**
**Не аднаму з маіх сяброў...**
**На роднай мове,**
**хто відушчы,**
**Няхай жа звоніць серабром.**

*("Наша слова").*

Тэма мовы, клопат аб стане роднага слова становяцца сёння (як ніколі!) палітыкай высокага кшталту. І шкада, што ўсё гэта не толькі ва ўчарашнім дні -- пошук ворагаў сярод носьбітаў беларушчыны, таму і верш "На сустрэчу", адрасаваны Наталлі Арсенневай ("Ну скажыце, ці то вораг, Калі славіць Беларусь У цудоўных сваіх творах... Я ж на сэрца ўсё бяру"), успрымаецца як водгук на самыя апошнія падзеі ў жыцці нашай краіны. Святло, трагічнасць, што ідуць з недалёкай мінуўшчыны, -- гэта і ўрокі на будучыню. Выкладае іх Анатоль Іверс з сардэчнай трывогай, з шматкратнымі перажываннямі душы, але без усялякай дыдактыкі, стрымана, шчыра.

І хаця "Прыдарожныя сосны" выдадзены ў правінцыйнай, скажам так, друкарні, уражвае паліграфічнае аздабленне кніжкі. У якасці ілюстрацый пададзены рэпрадукцыя з партрэта Анатоля Іверса работы мастачкі Клаўдзіі Хруцкай, а таксама здымак "Скульптар Леанід Богдан заканчвае работу над бюстам Анатоля Іверса". Ужо і гэта ёсць пэўнае сведчанне, грамадскае прызнанне творчага і жыццёвага плёну слонімскага паэта.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## *НЕЗВЫЧАЙНЫ БЕЛАРУС XX СТАГОДДЗЯ*

# "БАЦЬКА ГЕНАДЗЬ"

Семінар Казіміра Машынскага разбудзіў у душы Цітовіча ўдумлівага даследчыка песень і іх напеваў, абрадаў, міфалогіі, вераванняў. Сведчанне гэтаму не толькі больш сотні артыкулаў па ўсіх пытаннях фалькларыстычнай тэорыі і практыкі, але і яго вялікая навуковая праца 1974 года спачатку ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, а пазней у навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору Белдзяржуніверсітэта. Працуючы ў апошняй побач з ім, я заўсёды здзіўляўся энцыклапедычнай дасведчанасці і шматграннасці працы гэтага выдатнага вучонага. Ён рэдагаваў шматлікія фальклорныя выданні, рэцэнзаваў і ўдзельнічаў у абмеркаванні навуковых прац, дысертацый, дапамагаў пачынаючым фалькларыстам, узначальваў дзяржаўную камісію ў Мінскім педінстытуце. Ён не толькі быў маім фальклорным "хросным бацькам", а непасрэдна дапамог стаць укладальнікам двух фальклорных зборнікаў, дзе значыцца і яго імя як рэдактара: "Песні партызанскай славы" і "Спадчына маёй маці". Большасць беларускіх фалькларыстаў могуць сказаць пра "бацьку Генадзя" тое ж самае.

Але найлепшае ўяўленне аб Цітовічу-даследчыку, яго шырокім навуковым кругаглядзе дае зборнік найбольш грунтоўных навуковых прац "Аб беларускім песенным фальклоры" (1978). (Раней, у 1976 годзе, ён выдадзены з прадмовай Зінаіды Мажэйка на рускай мове). У ім змешчаны глыбокадумныя артыкулы аб асаблівасцях беларускай народнай песні, яе сучасным стане, песнях гадавога круга, беларускіх песенных стылях, а асабліва шматгалоссі, песеннай структуры. Наватарскімі выглядаюць нарысы аб песенных узаемасувязях беларусаў з украінцамі і літоўцамі, аб узаемадзеянні фальклору і прафесійнага майстэрства.

Рэпертуарны голад у шматлікіх фальклорных і харавых калектывах у пасляваенны перыяд запатрабаваў ад Цітовіча падрыхтаваць адпаведныя выданні. Ён адказна адгукнуўся трыма такімі зборнікамі: "Беларускія народныя песні для двух галасоў" (1948), "Песні шчасця" (1950) і "Апрацоўкі беларускай народнай песні" (1955).

У 1959 годзе з'яўляецца першае на Беларусі энцыклапедычнае выданне "Песні беларускага народа", куды ўкладальнік Цітовіч уключыў 296 лепшых узораў песень усіх разнавіднасцяў са збораў 50 збіральнікаў. Сярод апошніх такія выдатныя імёны, як М. Рымскі-Корсакаў, Ф. Калеса, К. Квітка. Энцыклапедыяй зборнік робяць каментарыі, у якіх да кожнага запісу даюцца крыніцы іх варыянтаў і хто з кампазітараў выкарыстаў іх.

Вынікам вандровак Цітовіча ў Польшчу перад вайной да жонкі стаў цікавы і адзіны на Беларусі зборнік "Польскія народныя песні" 1962 года.

І, нарэшце, у 1968 і 1975 гадах двума выданнямі выходзіць галоўная праца Цітовіча "Анталогія беларускай народнай песні", куды ён уключыў ужо 431 узор лепшых песень з калекцый 67 збіральнікаў.

У выданні, як і ў іншых справах, Шырма і Цітовіч прыгожа дапаўнялі адзін аднаго. Яны мелі прыблізна аднолькавыя зборы песень, але Шырма выдаваў пераважна свае запісы (ён выдаў каля 1 200 з сваіх запісаў песень з мелодыямі), а Цітовіч адбіраў лепшае ва ўсіх песенных зборах. Сваіх ён выдаў агулам каля 200 запісаў.

Цітовіч прысвяціў "Анталогіі..." 20 гадоў працы, але калі ўгледзецца ў пашыраны каментарый у выданнях, не верыцца, што гэта мог зрабіць адзін чалавек. Бо перад намі поўнае ўяўленне аб лепшых узорах беларускіх народных песень з варыянтамі, месцамі іх запісу, дзе яны друкаваліся і хто выкарыстаў іх. Акрамя таго, амаль да кожнай песні пададзены вельмі каштоўныя заўвагі. Без перабольшання, "бацька Генадзь" зрабіў навуковы подзвіг. "Анталогія"... стала настольнай кнігай кожнага, хто цікавіцца народнай песняй. Усё ж самай апошняй працай Цітовіча стаў зборнік яго апрацовак беларускіх народных і аўтарскіх песень "Добры вечар" 1986 года. Сярод апошніх -- большасць твораў, напісаных на тэксты яго творчага сябра Адама Русака: "Беларусь мая", "Велічальная", "Добры вечар" і інш.

Народны артыст СССР Генадзь Цітовіч заслужана меў тры ордэны Працоўнага Чырвонага Сцяга і ордэн Дружбы народаў.

Але гэта было ўжо напрыканцы жыцця. Як выхадзец з Заходняй Беларусі, ды які яшчэ быў на акупіраванай тэрыторыі, ён хадзіў з ярлыкам нацыяналіста, пастаянна праследаваўся, за ім сачылі карныя органы, забаранялі друкаваць яго працы.

-- Усё жыццё, -- гаварыў ён са скрухай у апошнія гады, -- я адчуваў над галавой сякеру.

Цітовіч, вядомы і любімы ў кожнай сялянскай хаце, жыў больш чым сціпла. Але гэты мужны чалавек быў тым не менш заўсёды вясёлы, дасціпны, гасцінны, гаваркі. Выключнае пачуццё гумару рабіла яго цэнтрам любога застолля, у яго не было комплексу штучных умоўнасцяў, у тым ліку і ў гарэзлівых выразах, бо меў адкрытую народную душу.

Меў выключныя здольнасці і адносіўся ў той жа час вельмі адказна да запісу народных песень. Праз некалькі хвілін пасля знаёмства спевакі адкрывалі яму свае песенныя душы, настолькі просты, добры, адкрыты быў ён сам з імі. Адразу распазнаваў каштоўнасць запісаў: тактоўна адхіляў нізкамастацкія, але ўмеў "вывудзіць" самае лепшае. Яго адразу прызнавалі сваім і любілі.

На жаль, аб гэтым выдатным чалавеку, які ўвасабляў лепшыя нацыянальныя рысы беларуса, мы амаль што нічога, акрамя яго "хохмачак", не ведаем. Праўда, ёсць добры біяграфічны нарыс Дзмітрыя Жураўлёва 1969 і 1984 гадоў, але ў ім няма аналізу навукова-мастацкай дзейнасці славутага вучонага і выдатнага маэстра. Маю надзею, што гэтыя артыкулы разбудзяць цікавасць даследчыкаў да яго постаці.

"Бацька Генадзь" спалучаў у сабе кваліфікаванага збіральніка народных песень, глыбокадумнага даследчыка іх мастацкай структуры, стараннага выдаўца лепшых узораў роднай песні і таленавітага інтэрпрэтатара яе ў хорах. Высокакваліфікаваны фалькларыст быў не толькі тэарэтыкам-збіральнікам і знаўцам песні, але і практыкам харавога мастацтва, які захаваў першародную чысціню і хараство народных мелодый, які даваў іх на сцэне ў сінкрэтычным адзінстве з музыкай, рухам, танцам. Ён літаральна тэатралізаваў песні на сцэне -- і гэта было самае выдатнае. Нават калі ён чытаў лекцыю ці проста расказваў пра песню, ён яе пяяў, пераўвасабляўся ў дзеючых асоб песні, мімікай, жэстам, выразам твару драматызаваў сюжэт -- і гэта быў тэатр аднаго акцёра.

"Як іх нам не хапае -- Шырмы і Цітовіча", -- можна часта пачуць. Я ім адказваю любімым выразам Шырмы: "Ты не кажы з сумам -- іх няма, а з радасцю -- былі!".

**Васіль ЛІЦЬВІНКА.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№21, 22, 25—26, 27, 31.**



**НА ЗДЫМКУ: Генадзь ЦІТОВІЧ у час фальклорнай экспедыцыі ў Кажан-Гарадку.**

# УЛАСНЫ ШЛЯХ "ЭКАМЕДСЕРВІСУ"



Адкрыццё чарговай камерцыйнай медыцынскай установы, дзе за грошы можна "падрамантаваць" сваё здароўе, -- сёння не такая ўжо і рэдкая з'ява. Аднак у дзейнасці адкрытага ў Мінску медыцынскага цэнтра "Экамедсервіс" ёсць некаторыя нехарактэрныя рысы, якія вартыя таго, каб расказаць пра іх асобна.

Добра разумеючы, што рынак платных паслуг такога роду апошнім часам быццам пачынае насычацца, а высокія цэны стрымліваюць многіх нашых грамадзян, якія б хацелі туды звярнуцца, навукова-вытворчае прадпрыемства "Дыяген" і вытворча-камерцыйная фірма "Валме" вырашылі пайсці сваім шляхам: зрабіць лепшы ў горадзе цэнтр комплекснага медыцынскага абслугоўвання, дзе будуць аказвацца паслугі ў галіне стаматалогіі, касметалогіі і карэкцыі зроку. Было закуплена лепшае замежнае абсталяванне, спецыялісты -- усе не менш, чым з 10-гадовым стажам працы ў сваіх галінах -- прайшлі стажыроўку ў замежных фірмах, і праз год цэнтр адчыніў свае дзверы для наведвальнікаў.

Гасцям цэнтра было на што паглядзець падчас прэзентацыі. Варта сказаць хаця б тое, што "Экамедсервіс" -- адзіная ў Беларусі камерцыйная структура, якая мае дазвол займацца хірургічнай стаматалагічнай практыкай. У прыватнасці, тут будуць ажыццяўляцца аперацыі па імплантапогіі -- ужыўленню штучных пратэзаў, якія за мяжою каштуюць больш за 2 000 долараў, у Маскве -- 1 200 -- 800, а ў Мінску такая паслуга будзе каштаваць 150—200 долараў. Тут будуць аказвацца і паслугі па карэкцыі зроку, падбору кантактных лінз, пры дапамозе якіх можна будзе нават змяніць колер вачэй. Касметычны кабінет абсталяваны найноўшымі амерыканскімі прыборамі, якія дазваляюць ажыццявіць самыя разнастайныя працэдуры.

Што казаць, усе гэтыя паслугі будуць платнымі, і кошт іх немалы. Але вось тут і варта расказаць, чым гэты цэнтр адрозніваецца ад тых, што ўжо існуюць, і куды звярнуцца могуць толькі людзі, у якіх ёсць грошы, і немалыя. Справа ў тым, што плошчу пад медыцынскі цэнтр прадаставіў выканком Кастрычніцкага раёна горада. А на пытанне, чаму ён гэта зрабіў, на прэзентацыі адказаў мэр горада Мінска Уладзімір Ярмошын.

-- Праблема аховы здароўя, -- сказаў ён, -- сёння ў горадзе сярод іншых стаіць на першым месцы. Пры карэкціроўцы бюджэту на другое паўгоддзе нам давялося абрэзаць іншыя, у тым ліку сацыяльныя сферы, каб павялічыць аб'ёмы фінансавання аховы здароўя на 400 мільярдаў рублёў, і гэтых сродкаў нам хопіць усяго на тры месяцы. Таму без уключэння бізнесу і камерцыйных структур у гэтую галіну мы не зможам падняць ахову здароўя і забяспечыць мінчан неабходнымі паслугамі. Мы пайшлі насустрач камерцыйнай фірме, прадаставіўшы дзяржаўныя плошчы пад гэты цэнтр. У сваю чаргу, "Экамедсервіс" узяў на сябе абавязкі бясплатна абслугоўваць старых і інвалідаў, што жывуць у гэтым раёне.

Стварэнне медыцынскага цэнтра "Экамедсервіс" -- адзін з найбольш удалых прыкладаў таго, як пры жаданні можна аб'яднаць камерцыйныя інтарэсы структур прыватнага бізнесу і вырашэнне сацыяльных праблем горада. "Экамедсервіс" прыняў першых наведвальнікаў.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**Здымкі Віктарам СТАВЕРАМ зроблены ў "Экамсервісе".**

## *СТАРОНКІ "ВІЦЕБСКАГА АЛЬБОМА"*



На перакрыжаванні вуліц Суворава і Чэхава ў Віцебску стаіць манументальны будынак строгай класічнай архітэктуры. Узведзены ён быў у 1890--1893 гадах паводле праекта архітэктара А. Кляменцьева, і размяшчалася ў ім мужчынскае духоўнае вучылішча.

Старадаўняя назва вуліцы Чэхава -- Ветраная, якая атрымала сваё найменне ад ветранога млына, што яшчэ да сярэдзіны мінулага стагоддзя стаяў якраз на месцы духоўнага вучылішча. Як узгадваў у сваіх успамінах віцебскі старажыл Мікалай Нікіфароўскі, вятрак на ягонай памяці "быў мураваным, нязграбным збудаваннем усечана-канічнай формы, з драўляным каўпаком, адкуль яшчэ тырчэлі напаўразбураныя млынавыя крылы і прыстасаванні для павароту каўпака і крылаў у падветраны бок". Уладаром млына быў купец Баруноў, якому належаў таксама і сад, сярод якога стаяў вятрак. Род Баруновых здаўна быў вядомы ў Віцебску заможнасцю і адметнымі якасцямі сваіх прадстаўнікоў. Так, у 1812 годзе падчас выгнання французскіх войскаў з горада Сяргей Баруноў вызначыўся ўчынкам неверагоднай мужнасці: адабраўшы ў аднаго з французаў стрэльбу, ён кінуўся на натоўп з 30 узброеных вояў і прымусіў іх, пакідаўшы спачатку свае ранцы, а потым і стрэльбы, ратавацца ўцёкамі па Смаленскай вуліцы.

К канцу XIX стагоддзя род Баруновых прыйшоў у занядад, і апошні з яго прадстаўнікоў вымушаны быў прадаць найперш млын, а потым і славуты Баруноў сад, што быў месцам забаў і адпачынку не аднаго пакалення віцяблян. У 1890 годзе гэтую тэрыторыю за 8 500 рублёў набыло духоўнае ведамства, якое распачало ўзводзіць на ёй мужчынскае духоўнае вучылішча.

Г-падобны ў плане будынак колішняга вучылішча складаецца з двух узаемна перпендыкулярных крылаў. З боку галоўнага фасада размешчаны парадная лесвіца і значныя па памерах адміністрацыйна-грамадскія памяшканні, астатняя прастора збудавання мае калідорную планіроўку з двухбаковым размяшчэннем вучэбных памяшканняў.

Зараз тут знаходзіцца адзін з факультэтаў Віцебскага педагагічнага інстытута.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: будынак былога мужчынскага духоўнага вучылішча.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## *СПОРТ*

### ПРЫЕМНЫЯ ЎСПАМІНЫ ЗАСТАНУЦЦА НАДОЎГА

Нядаўна ў Мінску адбылося ўрачыстае адкрыццё спецыялізаванай залы па мастацкай гімнастыцы. З выпадку гэтай нагоды тут выступіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які заявіў, што на падрыхтоўку нашых спартсменаў да Алімпійскіх гульняў у Атланце ўрад рэспублікі выдзеліць адзін мільён долараў.

Гэтыя словы былі сказаны ў дні правядзення першынства свету па лёгкай атлетыцы. І Прэзідэнт, і ўсе аматары спорту знаходзіліся пад уражаннем выдатнага выступлення нашых землякоў.

Назавём тых, хто вызначыўся ў апошніх стартах. Залаты медаль заваявала кідальніца дыска Эліна Зверава. У гэтым жа відзе сярод мужчын "серабро" і "бронзу" прывезлі дадому Уладзімір Дуброўшчык і Васіль Капцюх.

І вось падведзены вынікі каманднага першынства свету. Услед за спартсменамі ЗША другое месца ў нашых землякоў. Гэтага поспеху ніхто не чакаў, бо ў Швецыі выступалі спартсмены з 200 краін. Сапраўды такое надоўга запомніцца ўсім.

## СНЯДЗІН НА ПРЫПЯЦІ

Жыхары большасці беларускіх гарадоў, маглі б з упэўненасцю заявіць, што, калі б яны нарадзіліся некалькі стагоддзяў назад, дык былі б звычайнымі сялянамі. Бо гарады пачынаюцца з вёсак. Але нямногія сяльчане маюць права пахваліцца тым, што іх вёска раней была... горадам.

У ліпені на тэрыторыі вёскі Снядзін Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці адбыліся раскопкі, якія правялі археолагі Інстытута гісторыі АН РБ і група амерыканскіх студэнтаў археалогіі Мюленбергскага каледжа (штат Пенсільванія) на чале з прафесарам антрапалогіі Волтам Трымерам.

Яшчэ ў сярэдневяковых летапісах можна сустрэць назву "горад Снядзін на Прыпяці". Ускосныя пацвярджэнні таго, што цяперашняя вялізная выміраючая вёска (60 працэнтаў дамоў пустуюць) якраз і з'яўляецца тым самым горадам, былі выяўлены ў ходзе гэтай экспедыцыі. Знойдзеныя пры раскопках бранзалеты, упрыгажэнні -- прамое сведчанне існавання ў гэтым месцы менавіта гарадской, хоць і старажытнай, культуры.

У раёне вёскі экспедыцыя праводзіла і раскопкі паселішчаў першых славян. Знойдзеныя рэшткі металургічнага комплексу, што належаць да V стагоддзя нашай эры, даказваюць не толькі даўнасць засялення тэрыторыі, але і даволі высокі ўзровень вытворчасці таго часу.

Даследаваны курганныя могільнікі X--XI стагоддзяў.

63 курганы, размешчаныя ў Прыпяцкім гідраландшафтным запаведніку, нанесены на карту.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 3193. Падпісана да друку 21. 8. 1995 г.